# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

3 лістапада 2000 №35 кошт 1 літ




Падрыхтоўка да зімы. Вільня. *Здымак Дзяніса Раманюка*

## Выбары й пасьля іх...

Так супала, што прэзыдэнцкія й парляманцкія выбары адбыліся амаль у адначасьсе ў Літве, Югаславіі, Польшчы й Беларусі. (Канечне, выбары ў Беларусі можна назваць «парляманцкімі», толькі ўзяўшы гэтае слова ў двухкосьсе). У Польшчы пры ўладзе застаўся прэзыдэнт Квасьнеўскі, г. зн. палякі даверылі лёс на другі тэрмін сваім «левым». А вось у Літве, пасьля двухтэрміновага (і даволі бяздарнага, на наш погляд, у пляне нутраной эканамічнай і сацыяльнай палітыкі) кіраваньня, партыя «правых» Ландзбергіса змагла набраць у Сойме толькі 9 мейсцаў з 141-го (чацьвертае, апошняе мейсца). Татальную перамогу атрымалі «левыя» – «кааліцыя Бразаўскаса», куды ўвайшлі такія, напрыклад, яркія палітычныя асобы, як ачольнік сацыял-дэмакратычнай партыі Андрукайціс ды здаўна вядомая сп. Прускене, і другая літоўская сацыял-дэмакратычная партыя на чале з Паўлаўскасам. Праўда, партыя Паўлаўскаса (другое колькасьцю галасоў мейсца ў Сойме) раптам пасьля выбараў аб'ядналася з трэцімі ў сьпісе «лібэраламі» на чале з Паксасам (вядомым змагаром з карупцыяй у вышэйшых эшалонах літоўскай (цяпер ужо былой) улады), – і гэтыя дзьве партыі цяпер займелі большасьць галасоў у Сойме. Паўлаўскас замяніў Ландзбергіса на мейсцы сьпікера, а Паксас заняў пасаду прэм'ер-міністра. Такім чынам і кааліцыя Бразаўскаса, і «правыя» Ландзбергіса засталіся, як кажуць, каля разьбітага карыта. Але галоўнае заключаецца не ва ўсіх гэтых «пасьлявыбарчых гульнях», а ў тым, што ў Літве за дзесяць гадоў незалежнасьці сфармавалася сапраўдная дэмакратычная выбарчая сыстэма, што правячая партыя практычна ня можа ўплываць на вынікі выбараў, што ў Літве высокі працэнт актыўнасьці выбаршчыкаў, а г. зн. вера ў перамены, надзея на лепшую будучыню. (Больш падрабязна аб тым, што такое сучасная выбарчая сыстэма ў Літве, чытайце ў артыкуле Саўлюса Печалюнаса «Выбарчая сыстэма, як аснова літоўскага парлямантарызму» на ст.3).

Сябры Віленскага цэнтра грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі» таксама ўпершыню паспрабавалі ўдзельнічаць у выбарах, падтрымаўшы незалежнага кандыдата, нашага земляка Альфонса Аўгуліса. З 13 кандыдатаў сваёй выбарчай акругі сп. Альфонсас, без усялякай фінансавай і партыйнай падтрымкі, заняў пачэснае 5-ае мейсца. І гэта мы лічым сваёй маленькай перамогай. А самае галоўнае, мы займелі практычны вопыт на той выпадак, калі раптам нашая тутэйшая беларуская грамада пажадае стварыць у Літве сваю беларускую партыю (а такая ідэя ўжо даўна «лунае ў паветры»).

Што тычыцца выбараў у Югаславіі, іх мы камэнтаваць ня будзем, бо за імі пільна сачыў увесь сьвет. Заўважым толькі, што, дзякуй Богу, бурлівыя падзеі (фактычна, чарговая эўрапэйская «аксамітная» рэвалюцыя) ў гэтай краіне адбыліся вельмі своечасова й прынялі акурат такі кірунак, які станоўча паўплываў на заходнеэўрапэйскую дэмакратыю ў пляне стаўленьня да «выбараў» у беларускую «Палатку»: тыя, хто ў Эўропе вагаўся, неяк засаромеўся і зноў абвесьціў «Палатку» нелегітымнай, і зноў яна апынулася «за бортам» вялікай палітыкі.

Што да г. зв. «выбараў» у Беларусі, дык і тут можна казаць пра «мяккую» перамогу нашай аб'яднанай апазыцыі. Па-першае, незважаючы на ціск з боку лукашэнкаўскіх уладаў (асабліва ў беларускай глыбінцы) і на шалёную прапаганду ў беларускіх СМІ супраць дэмакратычных сілаў, заяўленых «Бацькам» 70% падтрыманцаў у яго не набралася. Больш таго, у Менску не набралася й 50%! Можна гаварыць, што мэханізм аб'яўленага апазыцыяй «байкоту» у жорсткіх умовах нашай прамаскоўска-айчыннай дыктатуры ўсё-ж спрацаваў (матар'ялы да выбараў у Беларусі чытайце на ст. 3) і ўсё атрымалася значна лепш нашых сумных чаканьняў. Падобна да таго, што крэсла пад «Бацькам» сёньня ўжо даволі расхістанае...

А між тым у Вільні, у Соймавай залі, 29 верасьня адбылася вельмі прадстаўнічая канфэрэнцыя «Праблемы парлямантарызму ў Рэспубліцы Беларусь» з удзелам нашых вядомых апазыцыянэраў (С. Шарэцкі, З. Пазьняк, В. Вячорка, С. Шушкевіч, А. Лябедзька, Г. Пракаповіч), літоўскіх парлямантарыяў, замежных гасьцей, у ліку якіх былі намесьнік амбасадара ЗША у РБ сп. Джон Кунстадтер і старшыня Дацкага Хельсінскага камітэту сп. Іб Алкен. Ці то з нагоды алімпійскіх гульняў, ці то з прычыны парляманцкіх выбараў у Літве, якія мелі неўзабаве адбыцца, канфэрэнцыя тая была кепска асьветленая ў літоўскіх СМІ. А трэба зазначыць, выступы беларускіх дэлегатаў на канфэрэнцыі былі зьмястоўныя, яскравыя, тычаліся ня толькі праблемаў беларускага парлямантарызму (дакладней, ягонай адсутнасьці ў РБ) і маючых адбыцца «выбараў», а й пэрспэктываў далейшага змаганьня з дыктатарскім рэжымам. У гэтым нумары мы падаем даклады з канфэрэнцыі сп. Сямёна Шарэцкага й кіраўнікоў двух самых буйных у Беларусі апазыцыйных партыяў: сп. Зянона Пазьняка, кіраўніка Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, і сп. Вінцука Вячоркі, старшыні БНФ. Калі С. Шарэцкі і З. Пазьняк засяродзілі ўвагу прысутных пераважна на гісторыі беларускага парлямантарызму й гісторыі ўтварэньня й характарыстыкі сёньняшняга рэжыму ў Беларусі (на пытаньні «Хто вінаваты?» паводле трапнага выказваньня В. Вячоркі), дык даклад самога сп. Вячоркі быў скіраваны на адказ на запытаньне «Што рабіць?» – якім чынам дзейнічаць на выбарах і ў бліжэйшыя паўтары гады пасьля іх перад выбарамі прэзыдэнцкімі.

## ЗАЯВА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ сп. Сямёна Шарэцкага

15 кастрычніка ў Беларусі скончыўся першы акт сацыяльнай трагікамэдыі пад назвай "выбары ў гэтак званы Нацыянальны Сход", які зьяўляецца кішэнным органам дыктатара. Я ўжо неаднаразова заяўляў, што тыя "выбары" ня могуць лічыцца легітымнымі ад самага пачатку.

Па-першае, яны прызначаныя ў парушэньне Канстытуцыі й заканадаўства Рэспублікі Беларусь дыктатарам, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся больш года таму назад і супраць рэжыму якога ўзбуджаная й вядзецца крымінальная справа паводле факту захопа ўлады неканстытуцыйным шляхам.

Па-другое, названае "мерапрыемства" даручана праводзіць групе асобаў, якія былі прызначаныя на пасады яшчэ напярэдадні так званага "лістападаўскага рэфэрэндуму" (1996 г.) тым самым дыктатарам у абыход усіх прававых нарматываў.

Па-трэцяе, дыктатарскім рэжымам была сарваная падрыхтоўка да трохбаковых перамоваў і ня выкананая амаль ніводная з чатырох дамоваў заключананага Пагадненьня, што змаглі-б забясьпечыць правядзеньне свабодных дэмакратычных выбараў у парлямант, які валодаў-бы хаця-б нейкімі рэальнымі заканадаўчымі функцыямі.

Як і трэба было чакаць, з грубымі парушэньнямі (у тым ліку й з фальсыфікацыяй ягоных вынікаў) прайшло й само галасаваньне, што зафіксавана многімі грамадзкімі назіральнікамі ды прадстаўнікамі Міжнароднай тэхнічнай місіі.

Разам з тым галасаваньне паказала, што дыктатарскі рэжым ужо ня мае падтрымкі народу, каторы, будучы маральна прыніжаным і даведзеным да галечы, па-сутнасці прайгнараваў гэтак званыя выбары, нягледзячы на падман, подкуп і пагрозы з боку дыктатарскага рэжыму.

Усё гэта й дало падставу Злучаным Штатам Амэрыкі, а пасля й прадстаўнікам міжнародных арганізацыяў даць належнаму фарсу, які ня мае нічога агульнага з сапраўднымі свабоднымі дэмакратычнымі выбарамі, аб'ектыўную ацэнку. І толькі расейскія шавіністычныя колы засталіся задаволенымі новым глумленьнем над дэмакратыяй і зьдзекамі над беларускім народам. Прычым, пры ацэнцы гэтак званых "выбараў" і гэтым разам адкрыта аб'ядналіся захапіўшыя ўладу прадстаўнікі ФСБ з самымі цёмнымі камуністычнымі сіламі, да якіх належыць і сам беларускі дыктатар.

Мяркую, што новы фарс, які адбыўся ў Беларусі, стаўся павучальным урокам і для тых, хто прайгнараваў рашэньні Кангрэсу дэмакратычных сілаў аб няўдзеле апазыцыйных дыктатарскаму рэжыму структураў у праводзімых ім мерапрыемствах, скіраваных на ягогоную легітымізацыю, ды прыняў удзел у гэтак званых "парламенцкіх выбарах".

Нельга не адзначыць і тое, што аналізуючы падрыхтоўку і правядзеньне апошніх "выбараў", і некаторыя журналісты - прадстаўнікі незалежных СМІ - таксама чамусьці называлі й працягваюць называць дыктатара і ўзурпатара ўлады ў Беларусі прэзыдэнтам, а Ярмошыну - старшынём Цэнтравыбаркама, забыўшыся пры гэтым нават узгадаць, што названая асоба пасаджаная ў парушэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь з дапамогай грубай сілы на месца, якое законна належыць знікламу ў ліку іншых вядомых у рэспубліцы палітычных дзеячоў, бізнэсоўцаў і журналістаў Віктару Ганчару.

Падзеі, каторыя адбыліся ў Беларусі ў зьвязку з гэтак званымі "выбарамі" й вакол іх, яшчэ раз наглядна паказалі, што без адхіленьня ад улады прарасейскага паводле свайго складу й паводзінаў, шавіністычнага ў адносінах да беларускага народу, па-сутнасці, акупацыйнага дыктатарскага рэжыму, каторы незаконна ўтрымлівае ўладу, - нельга правесьці ніякіх свабодных дэмакратычных выбараў. Бо дыктатар і ягоныя хаўрусьнікі, што зьдзейснілі за гэтыя гады цэлы шэраг злачынстваў, а таксама расейскія шавіністычныя колы, якія іх падтрымліваюць, ня пойдуць ні на якія пазытыўныя зьмены. Для іх вяртанне Беларусі на дэмакратычны шлях разьвіцьця раўназначнае сьмерці.

Таму са становішча, якое склалася, ёсць толькі адно законнае выйсце: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, як адзіны легітымны заканадаўчы й вышэйшы прадстаўнічы ў краіне орган, што зноў падцьвердзілі прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў, павінен неадкладна прыступіць да фармаваньня Часовага ўраду нацыянальнага даверу, які-б замяніў збанкрутаваную групу асобаў, што незаконна ўтрымлівае ўладу й працуе на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, - і разам зь Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь арганізаваў-бы сапраўды свабодныя дэмакратычныя выбары як парляманта, так і прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Са свайго боку, як Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, гатовы, згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, узяць на сябе ўсю адказнасьць і прыступіць да перамоваў на гэты конт з усімі сіламі, зацікаўленымі ў захаваньні незалежнасьці Беларусі й вяртаньня яе на дэмакратычны шлях разьвіцьця.

Спадзяюся на больш цеснае аб'яднаньне ды падтрымку ў гэтым накірунку ўсіх дэмакратычных партыяў і рухаў, мудрасьць нашага беларускага народу. Адначасова хачу зьвярнуцца й да тых, хто з прычыны тых ці іншых абставінаў быў уцягнуты ў дыктатарскія структуры й сёньня асэнсаваў сваю памылку, з заклікам вярнуцца да актыўнай дзейнасьці ў справе перабудовы грамадзкага жыцьця на новых дэмакратычных прынцыпах.

Спадзяюся й на паразуменьне міжнародных арганізацыяў, парлямантаў і кіраўнікоў усіх дэмакратычных краінаў і звяртаюся да іх з просьбай не пакінуць у бядзе шматпакутны беларускі народ ды дапамагчы яму пазбавіцца ад прагнійшага, акупацыйнага ў адносінах да Беларусі, дыктатарскага рэжыму, які грэбуе усталяванымі ў цывілізаваным сьвеце нормамі паводзінаў і прадстаўляе сабою небясьпеку стабільнасьці і міру ў рэгіёне.

## Заява Таварыства беларускай культуры ў Літве

Праведзеныя ў кастрычніку ў Беларусі «выбары» ў лукашэнкаўскую кішэнную «Палатку» паказалі, што, нягледзячы на скарыстаныя рэжымам жорсткі ўціск, запалохваньне, ілжывую інфармацыю ў дзяржаўных СМІ, беларускі народ не аказаў даверу існуючай уладзе й, пасутнасьці, збайкатаваў псэўдавыбары, а цывілізаваны сьвет не прызнаў вынікаў выбараў, якія не былі свабодныя й дэмакратычныя.

Нас, беларусаў Літвы, вельмі непакоіць антыбеларуская палітыка, якую праводзяць менскія ўлады, што падзялілі наш народ на «чэсных» і «нячэсных». Непакоіць, што беларуская мова выцісьняецца з усіх галінаў грамадзкага жыцьця, што ў большыні гарадоў зьліквідаваныя першыя беларускія клясы, што фальсыфікуецца гісторыя Беларусі, што забароненая нацыянальная сымболіка, што парушаюцца элементарныя правы чалавека. Не патрыётам, што змагаліся й гінулі за свабоду й незалежнасьць Бацькаўшчыны, а здрайцам і акупантам захоўваюцца мэмарыяльныя табліцы, помнікі й назовы вуліцаў. Існуючы ў Беларусі нелігітымны рэжым давёў яе да ізаляцыі ад заможных краінаў Захаду й вядзе беларускі народ да яшчэ большай галечы.

Пад дыктатарскім рэжымам немагчыма правесьці свабодныя й дэмакратычныя выбары ні парляманту, ні прэзыдэнта.

Толькі дэмакратычна абраны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, які прызнае ўся Эўропа й ЗША, мае законнае права прызначаць дату новых выбараў і Цэнтральную выбарчую камісію.

Мы заклікаем нашых суайчыньнікаў у Беларусі й за мяжой ня здрадзіць ідэі незалежнасьці Беларусі і ўсім разам гуртавацца ў вызвольны рух дзеля ўсталяваньня ў Беларусі свабоднага й дэмакратычнага ладу!

*Прынятая на паседжаньні Рады ТБК 23 кастрычніка 2000 г.*

## Сонца, якое ніколі не заходзіць...



У кожнага пакаленьня й кожнага беларуса – свой Багушэвіч. Мой – той, каторага я ведаю зь яголых твораў, з кнігаў Уладзіміра Содаля, з маіх асабістых уражаньняў і вандровак па Багушэвічавых мясьцінах у Беларусі й Віленшчыне. За гады вучобы ў школе я неаднойчы з маёй настаўніцаю беларускай мовы бывала на «спатканьнях» з Багушэвічам у Кушлянах. Хадзілі пешшу 15 кілямэтраў – тады гэта называлася «паходамі». І пазьней наведавала Кушляны, Жупраны, Ашмяны. Запомнілася сьвяткаваньне 150-годзьдзя нашага слыннага паэта ў Кушлянах. Сёлета мы адзначылі ягонае



160-годзьдзе. З той нагоды купка актывістаў ТБК разам з старшынём Таварыства сп. Хв. Нюнькам зноў наведала Жупраны, Кушляны, Рукойні, Сьвіраны. Прыемна блукаць па прысадах кушлянскага парку, слухаць шолах лісьця пад нагамі ды ўспамінаць клясычныя радкі зь вершаў паэта. Кушлянскі парк і маляўнічыя ваколіцы прыгожыя ў кожную пару. Тут лепш разумееш Багушэвіча, той час, калі ён жыў – канец XIX ст. Сапраўды, усё, што зьвязанае зь ягоным імем, выхоўвае. Уваходзіш у музэй, аглядаеш рэчы, кнігі, да якіх ён дакранаўся, і здаецца, што сам дакранаешся да таго часу, адчуваеш прысутнасьць паэта. Недалёка ад музэю лясок, у якім уросьлі ў зямлю валун, пад каторым хаваў свае рукапісы Мацей Бурачок. Нашым гідам быў сам дырэктар музэю й таксама паэт Алесь Жамойцін, бясконца ўлюбёны ў творы Фр. Багушэвіча і ва ўсё, што зь ім зьвязанае. А яшчэ нашым «гідам» была кніга Ул. Содаля «Сьвіранскія крэскі»... Асабліва прыемна нам, віленчукам, было тое, што жыцьцё й творчасьць «бацькі беларускай паэзіі» было цесна зьвязанае зь Вільняй: тут ён жыў з 1884 г., працаваў. Віленскі пэрыяд ці ня самы плённы ў творчай дзейнасьці Багушэвіча. І сёньня ён для нас як сонца, якое ніколі не заходзіць.

**Леакадзія Мілаш**



## Сіла волі – гэта адзіная зброя, дзякуючы якой мы можам перамагчы

*Апошнім часам Вільня зрабілася ўлюбёным мейсцам для правядзеньня разнастайных імпрэзаў беларускай дэмакратычнай апазыцыі. Гэта зразумела, Вільня – за мяжой, дыктатарскаму рэжыму непадуладная. Тут можаш вольна выказваць свае думкі: хочаш – на плошчы, хочаш – у Сойме. У Вільні вольнае паветра! Беларусаў сёньня цягне сюды ня столькі гісторыя, колькі будучыня. Хай з праблемамі, хай з канфліктамі, але ў Літве адбываюцца грандыёзныя пост-камуністычныя пераўтварэньні. Хада й выніку рэформаў цікавяць беларусаў, бо ў іх яшчэ гэтае толькі наперадзе...*

*І вось чарговая сустрэча, арганізатарам якой зьяўляецца й наш Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі». Напачатку лістапада плянуецца чарговая зборка Цэнтраў Плюралізму ў Эўропе. Гаворка будзе прысьвечаная Беларусі, бо Беларусь у нашым рэгіёне ёсьць цяпер самая «гарачая кропка» й да яе скіраваная асаблівая ўвага міжнароднай дэмакратычнай супольнасьці. У наступным нумары «Руні» мы мяркуем падрабязна асьвяціць гэтую сустрэчу, а пакуль друкуем невялічкі матар'ял зь мінулай сустрэчы Цэнтраў плюралізму ў Менску. Такім чынам – Беларусь у фокусе поглядаў нашай блізкай суседкі Украіны.*

13-я сустрэча Цэнтраў Плюралізму была прысьвечаная вывучэньню грамадзкай сытуацыі ў Беларусі. Удзельнікі змаглі параўнаць сытуацыю ў Беларусі з сытуацыяй у іншых краінах, у прыватнасьці на Украіне, Кубе, Каўказе, у Югаславіі, Расеі й Балтыйскіх краінах. Сустрэча, арганізаваная Інстытутам Дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе (ЗША) і Цэнтрам "Супольнасьць" (Менск), прайшла пад дэвізам "Змагаемся разам за дэмакратыю!". Крым на гэтай сустрэчы быў прадстаўлены чатырма грамадзкімі арганізацыямі – Цэнтрам "AYDIN", Таварыствам "Адраджэньне Крыму", НА "Рада настаўнікаў", НА "Крымскататарская ініцыятыва".

Беларусь ва ўяўленьні крымскага абывателя – нейкі камуністычны рай на чале з самым справядлівым "царом-бацюхнам" на зямлі. Такі стэрэатып узьнік з прычыны шырокай прапаганды з боку прарасейскай прэсы Крыму, якая на паўвысьпе займае становішча лідэра. Безумоўна, я чакаў пабачыць краіну эпохі сталінізму. І мае адчуваньні ўзмацніліся, калі мы ўехалі ў Менск. Горад са сталінскімі пабудовамі ды ўсюдыіснай савецкай сымболікай зрабіў на мяне гнятлівае ўражаньне. Малады хлопец, які нас сустракаў, па дарозе ў офіс Цэнтра "Супольнасьць" спрабаваў распавесьці гісторыю гораду, але ў яго гэта кепска атрымлівалася. Плошчы Маркса, Леніна, помнікі Калініну, Дзяржынскаму, здавалася, здолелі- б зрабіць вар'ятам кожнага чалавека, які ня лічыць сябе "саветыкусам". Ня ведаю як маім калегам, а мне ў той час хацелася аднаго – хутчэй бы скончыўся гэты кашмар.

На шчасьце, кашмар працягваўся нядоўга. Калі мы ўвайшлі ў офіс Цэнтра "Супольнасьць" і нас сустрэлі маладзёны, якія жвава размаўлялі на роднай мове, са шчырымі й добрымі тварамі, калі я ўбачыў, што побач зь беларускай нацыянальнай сымболікай сьцяну упрыгожвае маленькі чачэнскі сьцяг, - на душы пацяплела. І гэта факт: Беларусь, дэмакратычная Беларусь, жыве, не зважаючы ні на якія рэпрэсіі "таталітарнага ідалу". Дый іначай і быць ня можа. Было прыемна ўсьведамляць, што аснову нацыянальнага руху складае моладзь. Дзеціюкі, у тым ліку й школьнікі 14-16 гадоў ствараюць грамадзкія арганізацыі, уступаюць у палітычныя партыі. Пазьней мне распавялі, што асноўная маса палітызняволеных Беларусі – студэнты й школьнікі, якія, выходзячы з турмаў, зноў кідаюцца ў гушчу нацыянальнага руху. І гэта тое, у чым Украіна прайграе, на маю думку, Беларусі. Бо ня трэба быць прарокам, каб зразумець: калі аснова дэмакратычнага руху – моладзь, дык за гэтым рухам – будучыня. Ня доўга засталося Беларусі пакутаваць у няволі.

І яшчэ адзін беларускі фэномэн, што заслугоўвае ўвагі. Лукашэнку сваім "геніяльным" розумам удалося тое, чаго ня здолеў зрабіць ні адзін дэмакратычны лідэр постсавецкай прасторы – кансалідаваць беларускую грамадзкасьць. Сёньня апазыцыйная прэса, грамадзкія арганізацыі, прафсаюзы Беларусі аб'яднаныя ў адзіны Дэмакратычны блёк. І самае галоўнае, што гэты блёк – дзейнічае. Лідэры розных апазыцыйных партыяў пакінулі за "бортам карабля дэмакратыі" свае амбіцыі. Гэтымі днямі ўсё часьцей прыходзіла мне ў галаву думка: няўжо, Украіна, і табе патрэбны Лукашэнка, каб правыя палітычныя сілы здолелі зразумець, перад якою небясьпекай стаіць іхная радзіма.

У апошні дзень сустрэчы мы ўдзельнічалі ў Чарнобыльскім шляху – дэманстрацыі, арганізаванай Беларускай апазыцыяй. Калёна, у якой у адзіным натхненьні йшлі стары-інвалід і 14-гадовы юнак, а маладая маці вяла за руку маленькага сына, скандавала: "Беларусь – у НАТА!" І ў гэтым заклiку я зноў пачуў: "Жыве Беларусь!»

**Айдэр Муждаба**
*Цэнтар "AYDIN", Крым, Украіна*



У наступным нумары чытайце рэпартаж з выставы віленскага мастака Уладзіміра Кузьменкі

# Выбары й пасьля іх...

## Другая гутарка з сп. Рыгорам Пракаповічам

*Узбуджаная Генпракурорам РБ сп. Рыгорам Пракаповічам крымінальная справа супраць грамадзяніна А. Лукашэнкі працягвае выклікаць зацікаўленьне чытачоў «Руні». Наш карэспандэнт удругарадзь спаткаўся зь ім, каб пацікавіцца ходам сьледзтва, даведацца пра некаторыя ягоныя дэталі.*

**– Як Вы, Рыгор Пятровіч, пракамэнтуеце выказваньні Старшыні Вярхоўнага Савету РБ сп. Сямёна Шарэцкага наконт абставінаў узбуджэньня крымінальнай справы супраць А. Лукашэнкі?**

– Прыступіўшы ў лістападзе мінулага году да выкананьня абавязкаў Генпракурора РБ, няўхільна выконваючы патрабаваньні Канстытуцыі 1994 г., а таксама ў адпаведнасьці з нормамі крымінальна-працэсуальнага закону, я 1 сьнежня 1999 г. узбудзіў сваю першую й, мабыць, самую галоўную на гэты час крымінальную справу. Яна ўзбуджаная паводле арт. 61-І, ч. 2 Крымінальнага кодэксу РБ і прадугледжвае адказнасьць за захоп дзяржаўнае ўлады ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам. Справа ўзбуджаная паводле факту й папярэдняе сьледзтва праводзіцца ў адносінах да прадстаўнікоў усіх трох былых галінаў улады, якія нават і цяпер падпарадкоўваюцца быламу прэзыдэнту, на сёньняшні момант – проста грамадзяніну А. Лукашэнку.

Паколькі аб'ём сьледчай працы вялікі, дык папярэдняе сьледзтва дагэтуль працягваецца. Абставіны сьледзтва носяць вельмі спэцыфічны характар, бо ў нашай краіне пануе дыктатарскі рэжым, які чыніць сьле-дзтву розныя перашкоды.

У ходзе папярэдняга сьледзтва сабраныя й зьбіраюцца факты ў адносінах да тых асобаў, каторыя дапамагалі дыктатару зьдзейсьніць дзяржаўны пераварот. Патрапіла на вочы сьледзтва й вялікая кагорта з блізкага, можна сказаць, самага сяброўскага атачэньня Лукашэнкі асобаў, каторыя, прыкрываючыся пасадамі, а таксама апекаю самога дыктатара, цягнуць, як перад гібельлю, зь дзяржаўнай кішэні ва ўласную грашовыя сродкі й матар'яльныя каштоўнасьці. Закон гэта называе «карупцыяй» (яна асабліва квітнее пры дыктатарскіх рэжымах). І Рэспубліка Беларусь, на жаль, не выключэньне. Сёньня ўжо можна канстатаваць, што Лукашэнка падмануў і працягвае падманваць тых нашых грамадзянаў, каторыя абралі яго на вышэйшую дзяржаўную пасаду й якім ён абяцаў пакончыць з названым мной злом – карупцыяй. Але нельга падмануць Закон, і таму адказваць за зьдзейсьненыя злачынствы давядзецца. Каму? Гэта вырашыць час і папярэдняе сьледзтва. Сёньня-ж рабіць нейкія сэсацыйныя заявы – значыць парушыць тайну сьледзтва і адмоўна ўплываць на ягоную аб'ектыўнасьць. Адно зноў магу падцьвердзіць: гэтая справа будзе мець судовую пэрспэктыву, а вінаватыя – пакараныя...

**– Што, як Генпракурор, можаце сказаць наконт нядаўніх «выбараў» у «Палатку»?**

– Як вынікае з заявы Старшыні ВС сп. Сямёна Шарэцкага, дыктатар робіць, мабыць, апошнюю спробу легітымізаваць свой рэжым. Як і падчас г. зв. «рэфэрэндуму» ў лістападзе 96-га, гэтак і сёньня яму ў гэтым дапамагае хебра ягоных паплечнікаў з бліжэйшага акружэньня. Дапамагае й шмат хто з чынавецтва, і проста грамадзяне, уцягнутыя дыктатарам у ягоныя злачынныя авантуры. Г. зв. «выбары» – усяго толькі новы крымінальны эпізод, які давядзецца рассьледаваць у рамках названай мною крымінальнай справы. Але ўжо зараз ёсьць падстава бачыць, што, да прыкладу, у дзеяньнях грамадзянкі Лідзіі Ярмошынай ёсьць прыкметы грамадзка небясьпечнай дзейнасьці, і калі яна будзе й надалей незаконна займаць пасаду, а таксама падводзіць вынікі гэтага й будучых выбарчых фарсаў, дык у ейных дзеяньнях і будзе склад злачынства.

*Гутарыў* **Віктар Федаровіч**

## Другая гутарка зь Пётрам Явідовічам

*Зь Пётрам Явідовічам з Ашмянаў, студэнтам-завочнікам беларускай катэдры Віленскага пэдунівэрсытату й актыўным дзеячом беларускай апазыцыі мы ўжо спатыкаліся ў нашай рэдакцыі напярэдадні мінулых прэзыдэнцкіх выбараў – ён тады ўзначальваў Ашмянскі выбарчы ўчастак. І вось зноў выбары ў «Палатку», на якіх Пётра быў памочнікам каардынатара нагляду за выбарамі ў Ашмянскім раёне. Натуральна, што нам было цікава «зь першых рук» даведацца, як працякала галасаваньне ў беларускай глыбінцы, што сёньня зь сябе ўяўляе там наш выбаршчык...*

– Мне непасрэдна даводзілася прысутнічаць на выбарах, рыхтаваць справаздачу Хельсінскаму камітэту, сябрам якога зьяўляюся. На дэтэрміновыя выбары ў нас прыйшло да 5 адсоткаў выбаршчыкаў. На ўчасткі-ж ішлі пераважна тыя, каму ўжо за сорак. Менш ішло моладзі, але ўсё-ж ішла. Хлопцы й дзяўчаты ішлі неяк не задумваючыся, яны не разумелі, што, абраўшы «Палатку», яны адцягнуць жыцьцё Беларусі ад жыцьця суседніх краінаў яшчэ на 10-15 гадоў. Трэба адзначыць, што ў нас, як, зрэшты і ва ўсёй Беларусі, было замбіраваньне мозгаў, моладзь бачыла па тэлебачаньні, якая «страшная» нашая апазыцыя, што нібыта нясе краіне разруху (хоць апазыцыя наша й дня яшчэ не была пры ўладзе!).

**– Як да цябе перад і падчас выбараў ставіліся вашыя мяйсцовыя ўлады?**

– Гэтым разам было ўсё адносна спакойна. Зь іншага боку, за мной сачылі, маю кватэру наведвалі міліцыянты, пэўная частка сяброў, ведаючы, што за мной віжуюць, не прыходзіла да мяне. Гэта доўжылася ў часе датэрміновага галасаваньня. Двое зь міліцыі прыходзілі да мяне праверыць мае дакуманты, хто ў маёй кватэры прапісаны, хто да мяне прыходзіць. У мяне якраз у гасьцёх былі сябры, дык адзін з міліцыянтаў сказаў, каб яны пасьля адзінаццаці гадзінаў разыходзіліся. На што я адказаў, што гэта мая кватэра й мае сябры будуць знаходзіцца ў ёй, колькі яны пажадаюць, у нас жа няма камэнданцкага часу. Калі я дадаў, што зьяўляюся прадстаўніком Беларускага Хэльсінскага камітэту, яны вельмі неяк ціха сыйшлі... Таксама, калі я прыйшоў на ўчастак зарэгістравацца ў якасьці незалежнага назіральніка, мяне стуль забраў узброены нарад міліцыі. І гэта было жудасна й дзіка для маіх сяброў і блізкіх.

**– Якія тэндэнцыі ў зьмене псыхалёгіі жыхароў нашае правінцыі ты назіраеш?**

– Беларускаму жыхарству ў правінцыі цяпер не стае інфармацыі й адукацыі. І яно нават ня хоча гэтую інфармацыю ў сябе ўбіраць і карыстацца ёй. Наш народ па-ранейшаму «цёмны, сьляпы, быццам крот». Цёмны таму, што ён такі, як усе. Калі ўсе бедныя, дык ён думае: «Мой сусед бедны, мой сябра бедны, і я таксама бедны». Праўда, уладу яны ўжо ня любяць, але ня бачаць і іншых, хто-б яе замяніў. Калі мяне аднойчы затрымалі за распаўсюджаньне ўлётак, дык нашы мяйсцовыя крычалі, што так і трэба, бо я «апазыцыянэр». Наш народ на правінцыі ня верыць, што нехта шчыра хочыць зьмяніць ягонае жыцьцё да лепшага. І часам здаецца, што ён нават ня хоча ніякіх пераменаў, жыве адным днём. Старэйшыя ня бачаць будучыні для сваіх дзяцей, унукаў. Вельмі цяжка было назіраць, як нашыя людзі йшлі галасаваць як робаты, як зомбі, ня ведаючы навошта й за каго. Пытаўся, навошта ідуць. Адказвалі, што так трэба, што прэзыдэнт сказаў, дырэктар загадаў, начальства прыгразіла, што трэба галасаваць, што калі не прагаласуем, мы вас нейкім чынам пакараем. І гэта пры ўсім тым, што заробкі іхныя мізэрныя! Адным словам, наш рэжым сёньня трымаецца ў ва многім на тым, што народ ня бачыць, што можна жыць лепей, апрача можа толькі начальства. Вунь наш старшыня райвыканкама тав. Кудырка Вітольд Браніслававіч, не прабыўшы на сваёй пасадзе й года, пачаў будаваць сабе вялізны асабняк. А да гэтага быў тав. Пракопчык Віктар Іванавіч, каторы набраў вельмі многа грошай, а аднойчы падбіў на сваім аўто чалавека. Цяпер ён пайшоў на падвышэньне – узначальвае рэгіянальны мытны камітэт. Народ на такія рэчы, глядзіць як нібыта так і павінна быць, маўляў, не прэзыдэнт вінаваты, а мяйсцовыя ўлады, каторыя ўнізе, што мы так блага жывем. Яны нават ня хочаць задумацца, што ставіць гэтых кіраўнікоў той самы прэзыдэнт.

**– Як ты ў цэлым ацэньваеш выбары ў Беларусі?**

– Хачу сказаць, што ў Ашмянах, дзе ў нас татальна сядзелі назіральнікі, выбары не адбыліся. Гэта на двух участках, дзе сядзелі на датэрміновых галасаваньнях з ранку да вечара й таксама ў дзень галасаваньня. Там была выяўлена маса недапушчальных парушэньняў, прыходзілі, напрыклад, галасаваць зь некалькімі пашпартамі за сваіх сваякоў, прыходзілі й зусім без пашпартоў і пад. Такое становішча на гэтых двух участках можна сьмела памножыць на ўсю Беларусь... Я перакананы, каб на ўсіх участках Беларусі былі незалежныя назіральнікі, выбары-б не адбыліся!

**– Кажаш, што й моладзь сёньня ў правінцыі цёмная, неадукаваная...**

– Гэта яшчэ адбываецца й таму, што лепшая яе частка стараецца зьехаць у пошуках працы ў замежжа. Пазьяжджала шмат маіх сяброў, аднаклясьнікаў. Хто ў Штаты, хто ў Нямеччыну. На першым этапе едуць у Польшчу, Чэхію, а ўжо стуль шукаюць шляхоў далей на Захад. Наогул, імкнуцца застацца там на сталае жыхарства. Моладзь ня бачыць у Беларусі пэрспэктываў для свайго разьвіцьця, і зьяжджае самая таленавітая частка моладзі: тэхнікі, кампутаршчыкі, навукоўцы, – патэнцыяльнае «золата» Беларусі. Паводле апошніх апытаньняў сярод моладзі, студэнтаў ВНУ, прыкладна 70 адсоткаў зь іх жадае пасьля вучобы зьехаць за мяжу.

*Гутарыў* **А. М.**

# Выбарчая сыстэма, як аснова літоўскага парлямантарызму

Асновы нашага парлямантарызму закладаліся яшчэ напрыканцы 80-х гг. Гэта, напрыклад, шматпартыйная сыстэма. А пачалося ўсё з таго, што мы, калі ў 1989 г. мянялі нашую савецкую канстытуцыю, скасавалі артыкул аб дамінаваньні адной партыі. (Праўда, у тым артыкуле не было сказана, што з кампартыяй ня могуць суйснаваць іншыя партыі, але не было прадугледжана ніякіх мэханізмаў іхнай рэгістрацыі й пад.). Пасьля ліквідацыі гэтага артыкулу ўжо ў тым самым 89-ым адбыліся рэгістрацыі першых партыяў. А калі ў 1990 г. адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет, дык афіцыйна ў іх узялі ўдзел і партыі. Зрэшты, ня ўсе тады партыі адважыліся на выбары йсьці самастойна, бо існавалі два магутныя блёкі: першы складала літоўская кампартыя, якая тады ўжо аддзялілася ад КПСС, другі – «Саюдзіс». Аднак ужо тады кандыдаты ад партыяў, якія ўваходзілі ў гэтыя блёкі, не хавалі, да якіх партыяў яны належаць, і выбаршчыкі пра гэта знalі.

За 2,5 гады йснаваньня нашага першага парляманту ў ім ня столькі на партыйным, колькі на ідэалягічным, светапоглядавым грунце ўзьніклі й першыя фракцыі. Так, напрыклад, у нямалую фракцыю «Літоўскії нацыянальны саюз» увайшлі ня толькі «саюдзісты», а й шмат беспартыйных дэпутатаў, каторыя падзялялі ідэалягічную плятформу «Саюдзіса». Такія зрухі дазволілі нам перад наступнымі выбарамі прыняць закон, паводле якога выбары на 50 адсотак сталі аднамандатнымі й на 50 адсотак праводзіліся згодна партыйных сьпісаў. Другія выбары ў Літве прайшлі карэктна, пасьпяхова, што дало імпульс разьвіцьцю партыяў, станаўленьню шматпартыйнай сыстэмы. У другім нашым парляманьце паступова сфармавалася й сапраўдная апазыцыя (у станоўчым сэньсе гэтага слова, а ня толькі як голае крытыканства, адмаўленьне). Праўда, былі ў нас усьцяж такія партыі, каторыя лічылі сябе апазыцыйнымі й адначасна дэлегавалі ва ўрад сваіх прадстаўнікоў. Зразумела, калі «апазыцыянэры» маюць сваіх прадстаўнікоў у шэрагах выканаўчай улады, дык іхная апазыцыйнасьць – гэта адна голая рыторыка. Сапраўдныя апазыцыя павінная адзываць з ураду сваіх прадстаўнікоў!

На парлямантцкіх выбарах 96 г. мы ўвялі паняцьце «рэйтынгу» паводле партыйнага сьпісу. На хуткіх новых выбарах рэйтынгавая сыстэма будзе дасканаліцца ў бок большага ўплыву выбаршчыкаў на партыйныя сьпісы. Падчас-жа мяйсцовых выбараў, дзе партыйныя сьпісы даволі кароткія, нашыя выбаршчыкі перастаўляюць кандыдатаў у сьпісе, як ім жадаецца. Прычым 1 голас яны даюць за партыю, а 3 – за канкрэтных асобаў у сьпісе.

З прычыны даволі складанай для падліку рэйтынгавай сыстэмы мы дамагліся, каб урад набыў спэцыяльныя, даволі дарагія сканэры. Пасьля таго, як бюлетні забіраюцца з выбаркамаў умяшаньне чалавека ў падлік галасоў ужо немагчымы. (Канечне, на ўчастках падтасоўкі яшчэ могуць быць).

У Літве ўжо няма вылучэнцаў ад грамадзкіх арганізацыяў, працоўных калектываў і т. п. Нейкі час можна было вылучацца ад г. зв. палітычных арганізацыяў, аднак такіх цяпер у нас няма. Вылучыцца можна або з дапамогай партыйнага сьпісу, або як канкрэтная асоба – незалежным кандыдатам. Зразумела, што такая «незалежнасьць» базуецца на тым, што асоба кандыдата добра «раскручаная», шырака вядомая ў нашым грамадзтве. А наогул прайсьці ў якасьці «незалежніка» практычна сёньня немагчыма. Ня так проста сабраць (за месяц) і 1000 неабходных для вылучэньня кандыдатуры подпісаў у выбарчай акрузе. Запаўняюць блянкі самі выбаршчыкі, у іх, акрамя подпісаў, трэба ўнесьці пашпартныя дадзеныя, мейсца прапіскі.

Для таго, каб патрапіць у парлямант, партыі павінныя пераадолець 5% бар'ер, а кааліцыі – 7%. Але, здаецца, у будучым і для першых і для другіх будзе адзін 5% бар'ер. Плянуецца таксама ў будучым увесьці папярэднюю рэгістрацыю выбаршчыкаў, г. зн. тыя, хто вырашыў удзельнічаць у выбарах, павінныя будуць загадзя зарэгістравацца. Гэта зьменшыць мажлівасьць фальсыфікацыяў на ўчастках, бо ўсе астатнія будуць лічыцца, як непрагаласаваўшыя.

У адрозьненьні ад савецкіх часоў, калі было дапушчальнае галасаваньне з дапамогай г. зв. «пераносных вурнаў», у нас цяпер галасуюць «па пошце». Людзі, каторыя ня могуць зь нейкай нагоды прагаласаваць у свойчас, могуць ужо за 2 тыдні перад выбарамі узяйць у краме выбарчыя запрашэньні, пайсьці на пошту, там усё аформіць, атрымаць бюлетэнь, запоўніць яго. Прычым каб захаваць ананімнасьць галасаваньня, бюлетні й запрашэньні кладуцца ў розныя канвэрты, зьмешваюцца зь іншымі. Сьпісы з прагаласаваўшымі «па пошце» правяраюцца на ўчастках, каб не было падтасовак, загадзя.

На мяйсцовых выбарах у нас (пасьля даволі цяжкіх і доўгіх дэбатаў у парляманьце) скасаваны «парог» прагаласваўшых. Могуць прыйсьці некалькі чалавек ды выбраць усё кіраўніцтва самакіраваньня! І трэба адзначыць, што пасьля скасаваньня «парогу» актыўнасьць выбаршчыкаў павысілася на 5-6 адсотак! Чакаецца, што й надалей яна будзе падвышацца.

Я гэтак падрабязна спыніўся на выбарчай сыстэме Літвы, бо гісторыя парлямантарызму гэта перадусім не гісторыя барацьбы фракцыяў знутры парляманту, а гісторыя разьвіцьця выбарчай сыстэмы, гісторыя дачыненьняў парляманту з насельніцтвам, з урадам і пад. І ўсё тут пачынаецца з выбараў. Усё астатняе ёсьць іхні вынік!

**Саўлюс Печалюнас**

# Я веру ў адраджэньне парлямантарызму ў Беларусі!

Гісторыі ведамыя дзьве формы дзяржаўнага кіраваньня: манархічная й рэспубліканская. Манархія (ад грэцкага слова manarchia - адзінаўладства) - гэта такая форма праўленьня, пры якой найвышэйшая дзяржаўная ўлада цалкам ці часткова належыць адной асобе й звычайна перадаецца (але можа й не перадавацца) ў спадчыну. Рэспубліка (паходзіць ужо ад лацінскага respublica - грамадзкая справа) - гэта такая форма праўлення, пры якой вышэйшыя ворганы дзяржаўнай улады выбіраюцца на пэўны тэрмін.

Манархіі бываюць: саслоўныя, абсалютныя й канстытуцыйныя. Найбольш раньняй формай манархіі была саслоўная, пры якой улада манарха апіралася на ворганы саслоўнага прадстаўніцтва: гараджанаў, духавенства, дваранства. Абсалютная манархія - гэта такая форма кіраваньня дзяржавай, пры якой вярхоўная ўлада неабмежавана належыць адной асобе, якая абапіраецца не на саслоўе, а на магутны бюракратычны цэнтралізаваны дзяржаўны апарат. Пры канстытуцыйнай манархіі ўлада манарха абмяжоўваецца парлямантам, таму гэткая форма манархіі называецца яшчэ абмежаванай.

Рэспубліканская форма кіраваньня дзяржавай таксама дзеліцца на прэзыдэнцкую й парляманцкую. У першай на чале дзяржавы стаіць прэзыдэнт (ад лац. presidens - літаральна, які сядзіць наперадзе). Прэзыдэнт абіраецца на тэрмін, вызначаны канстытуцыяй, прамымі (Расея, Беларусь, Літва ды інш.), ускоснымі (ЗША, дзе прэзыдэнта абіраюць спэцыяльныя выбаршчыкі) і шматступенчатымі (Францыя) выбарамі. У такіх рэспубліках, як ЗША, Францыя, Расея, Беларусь, прэзыдэнт узначальвае і ўрад. Прэзідэнту падпарадкуюцца і ўзброеныя сілы, разьведка. Ён мае права вета, памілавання. У парляманцкіх рэспубліках урад фармуецца парляманцкай большасцю й нясе перад ёй (а не перад прэзыдэнтам, як у першых) адказнасць. У такіх рэспубліках нават сам прэзыдэнт можа абірацца парлямантам ( Чэхія, Латвія), але можа й насельніцтвам усёй краіны (Літва).

Рэспубліканская форма кіраваньня дзяржавай, як найбольш прагрэсыўная ў параўнаньні з манархіяй, была ведамая ўжо рабаўладальніцкаму ладу (Карфаген, Рым, Афіны, Венэцыя, Флярэнцыя). Дэмакратычныя асновы дзяржаўнага кіраваньня былі ўласцівыя й першай дзяржаве на тэрыторыі Беларусі - Полацкаму княству. Для вырашэньня розных пытаньняў склікаліся агульныя сходы палачанаў -- народныя вечы (ад старажытнаславянскага вяшчаць, гаварыць). І роля іх напачатку ХІІ ст. вырасла да такой велічыні, што на веча вырашаліся пытаньні вайны й міру, запрашэньня й выгнаньня князёў. Напрыклад, у 1151 годзе Полацкае веча выгнала князя Рогвалада Барысавіча ды пасадзіла на княжацкі трон мінскага князя Расьціслава Глебавіча. Веча кантралявала дзейнасць князёў і ажыцьцяўляла вышэйшы суд. У вырашэньні справаў на вечавых сходах удзельнічала ўсё паўнавартаснае мужчынскае насельніцтва, якое склікалася вечавым звонам ці вяшчальнікамі. Рашэньне прымалася выкрыкамі адабрэння. Веча, як форма кіраваньня дзяржавай, было ведамае таксама старажытным грэкам, германцам, чэхам, палякам, харватам і наўгародцам. У Ноўгарадзкай феадальнай рэспубліцы, як і ў Полацкім княстве, фактычная ўлада належала не князю, а вечу. У Ноўгарадзе на ім выбіраліся пасаднікі, тысяцкія й архіепіскап, якія й вырашалі пытаньні ўнутранай і зьнешняй палітыкі, распараджаліся казною.

Аднак далейшыя шляхі пры развіцьці формаў дзяржаўнага кіраваньня на тэрыторы Беларусі й Расеі пайшлі ў розных накірунках. Стваранае ў XIII ст. Вялікае княства Літоўскае было шматнацыянальнай дзяржавай і ўяўляла сабою формай дзяржаўнага кіраўніцтва своеасаблівую фэдэрацыю, у якой замест княстваў былі ўтвораныя ваяводзтвы, што мелі вялікія правы. Напрыклад, тыя самыя палачане, землі якіх канчаткова ўвайшлі ў склад ВКЛ у 1307 г., мелі права прызначаць ваяводу "паводле іх волі". Была абмежаваная й судовая ўлада ваяводаў воляю баяраў і мяшчанаў. "А воеводе нашему Полоцкому мешчан не судити одному, судити ему с бояры - мешчаны" - гаварылася ў земскіх прывілеях.

У Вялікім княстве Літоўскім абмежаваная была і ўлада Вялікага князя. Закон 1492 г. ўстанаўліваў, што ў выпадку разыходжаньня меркаваньняў Вялікага князя з пастановамі Рады князь абавязаны быў выконваць рашэньні Рады. Як і ў былым Полацкім княстве, Вялікі князь, як ужо сказана, ня быў свабодны і ў прызначэньні ваяводаў.

Дэмакратызм назіраўся таксама і ў адносінах паміж прадстаўнікамі розных народнасьцяў і рэлігіяў. Фэадалы рознага этнічнага паходжаньня й розных вераў уяўлялі сабою адну сацыяльную групу. Сведчаньнем гэтага зьяўляецца тое, што ў найвышэйшым воргане ўлады - Гаспадарскай Радзе - не сустракалася груповак, якія-б утварыліся на аснове этнічных ці рэлігійных адрозненьняў.

Такім чынам, Вялікае княства Літоўскае ўвайшло ў сусьветную гісторыю як адна зь першых эўрапэйскіх дзяржаваў, што стварыла ўнікальны ўзор палітычнага й грамадзкага ладу, прававой дэмакратыі, мірнага суіснавання розных народаў і царкоўна-рэлігійных сыстэмаў. У гэтым пляне трэба падкрэсьліць асаблівую ролю прыняцьця ў XVI ст. Статутаў Вялікага княства Літоўскага. Першы Статут быў прыняты ў 1529 г. Ён складаўся з 13 раздзелаў, першыя тры зь якіх былі прысьвечаныя дзяржаўнаму праву. Статут замацоўваў права ваяводаў абіраць Вялікага князя, які, зразумела, надзяляўся вялікімі правамі выканаўча-гаспадарчай дзейнасьці, быў галоўнакамандуючым войскамі ды кіраваў зьнешняй палітыкай дзяржавы.

Але, акрамя Гаспадарскай Рады, уладу Вялікага князя абмяжоўваў і Сойм, які вырас зь мясцовых вечаў і зьяўляўся саслоўна-прадстаўнічым ворганам. У працы Сойму прымалі ўдзел паслы, якія абіраліся ад паветаў. Сойм вырашаў пытаньні, звязаныя з вайною й мірам, устанаўліваў падаткі на ваенныя патрэбы, разглядаў крымінальныя справы абвінавачваньня паноў у дзяржаўнай здрадзе. На ягоных пасяджэньнях вырашаліся й некаторыя міжнародныя пытаньні. На пасяджэньнях Рады й Сойму старшынстваваў Маршалак земскі. Дарэчы, акрамя іншых функцыяў, менавіта Маршалак земскі даваў дазвол і на наведаньне Вялікага князя са скаргамі ды просьбамі.

Зародак падзелу ўладаў паводле функцыяў назіраўся і ў тым, што дзяржаўнай канцылярыяй кіраваў Канцлер, які да таго-ж узначальваў дзяржаўны архіў і захоўваў дзяржаўную пячатку. Канцлер і ягоны намеснік (Падканцлер) прымалі актыўны ўдзел у распрацоўцы заканадаўчых актаў. Дзяржаўную казну захоўваў Падскарбі земскі. І тут трэба падкрэсліць, што ўсе гэтыя службовыя асобы прызначаліся не Вялікім князем, а Радаю.

Дэмакратычнасць у кіраваньні Вялікім княствам Літоўскім праявілася і ў тым, што на прыняты Статут улады не глядзелі як на нешта застылае. І калі высьветлілася, што ён патрабуе свайго ўдасканаленьня, дык для ўнясеньня пэўных прапановаў была створаная камісія ў складзе 5 каталікоў і 5 праваслаўных. Новы Статут Вялікага княства Літоўскага быў прыняты ў 1566 г. Пры гэтым нельга не адзначыць вялікай ролі пры распрацоўцы прапановаў па ўдасканаленьні Статуту вядомага ў тыя гады юрыста й дыпламата, кальвініста паводле веравызнаньня Еўстафія Валовіча. У якасьці Падскарбія земскага ён удзельнічаў у распрацоўцы судова-адміністрацыйнай рэформы, згодна зь якой павінен быў адбыцца падзел судовай і адміністрацыйнай уладаў. А пакольки ў 1566 г. Валовіч абіраецца Падканцлерам, у яго зьявілася магчымасьць прыняць непасрэдны ўдзел ужо і ў рэдагаваньні новага Статуту. Вялікая заслуга Валовіча заключаецца яшчэ і ў тым, што ён падрыхтаваў сабе замену на пасадзе Канцлера ў асобе таленавітага палітычнага, грамадзкага ды ваеннага дзеяча Льва Сапегі. У 1581 г., ужо будучы Канцлерам, Еўстафі Валовіч, Падканцлер Хрыстафор Радзівіл і Леў Сапега, які ў той час працаваў пісарам пры двары Стэфана Баторыя, стварылі Трыбунал Вялікага княства Літоўскага - апеляцыйны дзяржаўны суд. Дадзены крок, акрамя ўмацавання законнасці, прадэманстраваў сьвету моц і сілу дзяржавы, ейную здольнасьць забясьпечыць абарону сваіх грамадзянаў.

Зь імем Льва Сапегі звязаная падрыхтоўка і выданьне ў 1588 г. Трэцяга Статута Вялікага княства Літоўскага. Статут гарантаваў княству эканамічную й культурную незалежнасьць, што было вельмі важна пасля Люблінскай вуніі 1569 г., у выніку якой на аснове Вялікага княства Літоўскага й Польскай кароны была створаная новая дзяржава - Рэч Паспалітая. Статутам істотна абмяжоўваліся правы манарха Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. У прыватнасьці ў Статуце на гэты конт гаварылася: "Таксама мы, гасудар, абяцаем і клянёмся, што ў той дзяржаве, Вялікім княстве Літоўскім і ва ўсіх землях, якія належаць яму, не будзем даваць ва ўладу ніякім замежнікам духоўных і сьвецкіх пасадаў, замкаў, маёнткаў, зямель, старостваў, дзяржаваў, абавязаныя даваць гэта толькі Літве, Жамойці й Русі, сваякам і народжаным у Вялікім княстве Літоўскім і тых землях, якія яму належаць". Вышэйшым заканадаўчым ворганам ВКЛ лічыўся Вальны (агульны) Сойм зь месцам знаходжаньня ў Слоніме.

Кадыфікацыя крымінальнага закону й выданьне Статутаў ВКЛ сьведчыць аб тым, што ў дзяржаве адносна развітай была прававая навука. Да даволі значных асобаў у галіне права быў у той час Андрэй Волан, які, дарэчы, таксама быў кальвіністам. Паслом у Сойм Рэчы Паспалітай Волан абіраўся ад Ашмянскага павету. Распрацоўваючы прынцыпы права, Волан бараніў агульную карысьць і сацыяльную гармонію. Пры гэтым вучоны абапіраўся на хрысьціянскае сьцверджаньне аб тым, што як чалавек хоча, каб да яго ставіліся, так ён павінен ставіцца да іншых людзей. У падтрыманьні гармоніі грамадзтва й справядлівасці ў дзяржаве асаблівую адказнасць Волан ускладаў на вышэйшую асобу і ейны асабісты прыклад. У сваім творы "Аб дзяржаве ды ейных асабістых дабрачыннасьцях" ён пісаў, што Вялікі князь "павінен ня толькі стрымліваць сябе ад прычыненьня крыўды іншым, але таксама стрымліваць сквапнасць сваіх пракурораў, якія валодаюць ягонай маёмасьцю ды вядуць ягоныя справы". "Пахвальна тое, што маральна", - лічыў Андрэй Волан.

Значэньне прынятых Статутаў ВКЛ заключаецца ў тым, што яны, па-першае, спрыялі цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацаваньню законнасьці, а па другое, заканадаўча замацоўвалі асновы дэмакратычнага кіраваньня, абмяжоўвалі фэадальнае самаўпраўства й садзейнічалі нараджэньню парлямантарызму, які зьяўляецца сэрцам дэмакратыі. Менавіта таму ўсе дыктатары імкнуліся пры ўмацаваньні сваёй асабістай улады зьнішчыць насамперш парлямантарызм. Па гэтаму шляху пайшла й царская Расея, дзе пасьля вызваленьня ад татара-мангольскага іга пачаў умацоўвацца абсалютызм. Справа ў тым, што прабыўшы цэлыя стагодзьдзі пад ярмом стэпавых качэўнікаў і перамешваючыся зь імі біялягічна, шматлікія рускія баяры й дваране ўспрынялі многія рысы менталітэту названых народаў. І гэта не магло не адбіцца на дзяржаўным ладзе Маскоўскага княства, а пасля й Расейскай імпэрыі. Маскоўскія князі, а пасьля й цары ўсё больш і больш пачалі адчуваць цяжар прысутнасьці побач з сабою народа. І земска-саборная дзейнасьць, якая раней была характэрная ня толькі Ноўгарадзкаму, але й іншым княствам на тэрыторыі Расеі, пайшла на спад. Для ўсталяваньня абсалютызму маскоўскімі ўладарамі былі выкарыстаныя ў тым ліку дэспатычныя мэтады, уласьцівыя татара-мангольскім ханам. Абсалютызацыі сьвецкай улады ў Расіі шмат у чым спрыяла й праваслаўная рэлігія, якая сама, пачынаючы зь ліквідацыі Пятром І патрыяршаства, трапіла ў залежнасьць ад дзяржавы. Усталяваная ў Расеі абсалютная манархія праіснавала там амаль дзвесьце гадоў.

Вось у гэткую дзяржаву й патрапіла Беларусь у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795г.г.). І калі-б не Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года, які дзейнічаў да 1840 года, і стварэньне ўніяцкай царквы, якая ў тыя гады была для беларусаў нацыянальнай, дык вельмі праблематычным было-б і захаваньне самога беларускага народа.

Імкненьне да адраджэньня сваёй нацыянальнай дзяржавы й дэмакратыі засталося ў беларусаў і ў далейшыя гады. Сьведчаньнем таму зьяўляецца высунуты ў 1863 г. Кастусём Каліноўскім лёзунг: "Не народ для ўраду, а ўрад для народу!". Толькі парляманцкай рэспублікай уяўлялі сваю дзяржаву ў 1918 г. стваральнікі й дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі. Менавіта гэткай яна заставалася й на першым часе сваёй незалежнасьці напачатку 90-ых гг. мінулага стагодзьдзя. Але, на жаль, прынятая ў 1994 годзе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь павярнула яе ў бок прэзыдэнцкай рэспублікі. А пасля дзяржаўнага перавароту (лістапад 1996г.) і наогул дзейнасьць парляманту была паралізавана і ў краіне ўсталявалася дыктатура адной асобы. Беларусь паводле мэтадаў дзяржаўнага кіраваньня апынулася сярэднявеччы.

І сёньня, мабыць, самым жахлівым зьяўляецца тое, што дыктатар у імя сваіх уладалюбівых амбіцыяў гатовы зьліквідаваць і дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, далучыўшы яе зноў да ўсё той самай Расеі, дзе таксама ўзнаўляецца ўлада адной асобы. Дый абраны прэзыдэнтам Расейскай Фэдэрацыі Ўладзімір Пуцін гэтага й не хавае. Ён адкрыта праводзіць паралелі паміж царскай манархіяй, уладай бальшавіцкай партыі на чале з Генэральным сакратаром і сёньняшняй прэзыдэнцкай рэспублікай у Расеі. Аб адраджэньні дыктатуры ў Расеі сёньня сведчаць ужо нават тыя ўрокі зь першакласьнікамі Пецярбургскіх школаў, на якіх усхваляецца новы правадыр - Валодзя Пуцін, які нібыта ўжо з калыскі быў хлопчыкам-паінькам: ніколі не курыў, займаўся спортам, быў працалюбівы і настойлівы.

Беларусь для Расіі - гэта лябараторыя, дзе адпрацоўваюцца мэтады вяртаньня да дыктатуры й стварэньня марыянэтачнага прарасейскага рэжыму, які, як жаба да вужа, лез-бы ў пастку Расейскага шавінізму. Аднак усе дзеяньні дыктатара й створанага ім рэжыму ў Беларусі зьяўляюцца пасьля 20 ліпеня 1999 г. незаконнымі, бо менавіта тады скончыўся тэрмін ягоных прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Сёньня супраць дыктатарскага рэжыму ўзбуджаная крымінальная справа й вядзецца следзтва. Таму ўжо нават з гэтай прычыны ад самага пачатку ня могуць лічыцца легітымнымі "выбары", якія дыктатар прызначыў на 15 кастрычніка ў сваю кішэнную "Палату". Другой прычынай нелегітымнасьці названых выбараў зьяўляецца адхіленьне ад іх арганізацыі законнай Цэнтральнай выбарчай камісіі на чале зь Віктарам Ганчаром. Што тычыцца "ярмошынскай кампаніі", якая выдае сябе за ЦВК, - дык гэта ад "лукавага". Трэцяй прычынай нелегітымнасьці названых выбараў зьяўляецца невыкананьне дыктатарскім рэжымам ведомых чатырох умоваў трохбаковага пагадненьня.

Лічу, што было-б правільным заявіць сёньня патрабаваньне да Лукашэнкі пакінуць незаконна трыманую ім пасаду ды зьвярнулася да міжнародных арганізацыяў, парлямантаў, кіраўнікоў і ўрадаў краінаў сьвету падтрымаць гэтае законнае патрабаваньне. Пры гэтым, мабыць, патрэбна падкрэсьліць, што гэткі ягоны крок зьявіўся-б падставай для забясьпечаньня яму гарантыяў недатыкальнасьці ў будучым. Апошнія падзеі ў свеце, і, у прыватнасьці, вынясеньне свайго вэрдыкту Віленскім Міжнародным Грамадзкім Трыбуналам камунізму, як эстрэміцкай, антыгуманнай і злачыннай перад чалавецтвам тэорыі й практыкі, падзеі ў Югаславіі й прынцыповая пазыцыя Дзяржадэпартаманту ЗША ў дачыненьні да дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, пасяляюць надзею, што Рэспубліка Беларусь павінная ня толькі застацца незалежнай дзяржавай, але й вярнуцца на дэмакратычны шлях разьвіцьця.

Я веру ў адраджэньне сапраўднага парлямантарызму ў незалежнай Беларусі!

Сямён Шарэцкі

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ЁСЬЦЬ СВАБОДА!

Мы павінныя выразна разумець сутнасьць становішча й палітычных працэсаў у нашай краіне. Першае й галоўнае пытаньне аб прыродзе грамадзкага канфлікту і аб зьмесьце палітычных пераменаў у Беларусі. Дыктатура й рэжым, усталяваныя ў Беларусі, не зьяўляюцца вынікам унутранага канфлікту грамадзкіх сілаў. Гэта ёсьць канфлікт, прынесены звонку й абумоўлены палітыкай расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму, які паставіў наўмэце аднавіць расейскую дзяржаву ў межах былога СССР. Гэтую палітыку расейскае кіраўніцтва і, найперш, КДБ пачалі яшчэ ў 92 г. Сыстэмна яна была сфармуляваная ў сакрэтнай дактрыне, падпісанай Ельцынам «Аб дзеяньнях Расеі ў дачыненьні да краінаў СНД». Распрацоўка была падрыхтаваная ў жніўні 95-га, і тады-ж тэкст гэтага сакрэтнага дакуманту зрабіўся вядомы ў Беларусі й быў надрукаваны ўкраінскім Рухам.

Усе наступныя гады й цяпер мы назіраем, як гэтыя рэваншысцкія імпэрскія пляны расейская ўлада імкнецца ажыцьцявіць. Найбольш драматычна сытуацыя склалася ў Чачні й Беларусі. У Беларусі ў 1994г. яны, выкарыстаўшы прэзыдэнцкія выбары, савецкую сыстэму беларускай улады й савецкую каляніяльную ад-міністрацыю, правялі на прэзыдэнцкую пасаду сваю кадэбоўскую крэатуру, Аляксандра Лукашэнку, чалавека без палітычнай біяграфіі. Пасьля антыканстытуцыйнага перавароту 96-га году расейскімі спэцслужбамі, перадусім КДБ – ФСБ, пры дапамозе Лукашэнкі была праведзеная ўнутраная акупацыя Беларусі, якая заключалася ў наступным:

– Заняцьце ўсіх кіруючых пасадаў ва ўладзе й эканоміцы Беларусі расейцамі, выхадцамі з Расеі й функцыянэрамі КДБ –ФСБ. У бела-рускім урадзе ўжо практычна не засталося ніводнага беларуса.

–Правядзеньне антыбеларускай русыфікатарскай унутранай палітыкі.

– Правядзеньне зьнешняй палітыкі, накіраванай на злучэньне з Расеяй і ліквідацыю сувэрэнітэта Беларусі.

Такім чынам, расейская ўнутраная акупацыя нашай краіны ёсьць часовы этап, пераходны працэс, які вядзе да ліквідацыі сувэрэнітэту й дзяр-жаўнасьці Беларусі, да аншлюсу яе Расеяй. А дыктатура Лукашэнкі ёсьць толькі функцыя ўнутранай акупацыі.

Акупацыйны рэжым ня можа быць дэмакратычны. Гэта – заўсёды дыктатура. У нашай сытуацыі яшчэ й прылада для ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Калі не разумець гэтых відавочных зьяваў, ігнараваць імпэрскую палітыку Расеі ды змагацца толькі з дыктатурай, дык такое сьляпое змаганьне, калі-б яно было пасьпяховае, можа прывесьці толькі да замены адной расейскай крэатуры іншай. І ўсё паўторыцца.

Падобная сытуацыя была разайграная ў 1994 г., калі дрэннага прарасейскага Кебіча зьмянілі на лепшага прарасейскага Лукашэнку. Адсюль-жа вынікае іншае відавочнае палажэньне: за акупацыйнай дыктатурай Лукашэнкі ня можа быць дэмакратычных выбараў у парлямант. Выбары будуць абавязкова недэмакратычныя, бо яны скіраваныя ня толькі на захаваньне ўлады дыктатара, але найперш на працяг акупацыйнай палітыкі Расеі. Лукашэнку й ягоным расейскім заплечнікам абходзіць правесьці любыя выбары ў парлямант Беларусі, любым спосабам, хоць напралом, абы толькі стварыць цалкам свой парлямант і мець магчымасьць паставіць пытаньне пра легалізацыю сваёй улады. Расейцам-жа патрэбны свой «кішэнны» парлямант, каб легальна праводзіць праз яго інтэграцыйныя акты паэтапнага аншлюсу нашай краіны й дамагацца потым іхнага прызнаньня на міжнароднай арэне.

Я лічу вышэй сказанае за галоўнае. І ў гэтым заключаецца сутнасьць нашай драмы. Захад трымаецца найгоршай тактыкі: падтрымлівае беларускі дэмакратычны рух і заплюшчвае вочы на расейскі імпэрыялізм. У рэальнасьці гэта ёсьць спрыяньне самым цёмным сілам у расейскай імпэрскай палітыцы КДБ – ФСБ, каторыя цяпер захапілі абсалютную ўладу ў Расеі. Гэтак сама, як у Беларусі, да ўлады ў Расеі прыйшлі савецкія спэцслужбы, якія былі асновай камуністычнай сыстэмы, стварылі ГУЛАГ і зьнішчылі дзясяткі мільёнаў людзей. Гэта трывожная гістарычная й буйная палітычная па-дзея. Нават у СССР ўсемагутны НКУС ня меў абсалютнай дзяржаўнай улады. Цяпер у ягоных руках усё!

Палітыка, якую пачалі праводзіць рускія кадэбоўцы, можа скончыцца, на мой погляд, толькі калючым дротам і вайной – пагрозай для ўсёй Эўропы. Для нас, беларусаў, гэтая палітыка і раней, і цяпер нясе вялікія няшчасьці, страту незалежнасьці, этнацыд і вынішчэньне. Мы шукаем разуменьня, агульных інтарэсаў й салідарнасьці на Захадзе. Дэмакратыя, законнасьць, справядлівасьць парлямантарызм, забясьпечаньне правоў чалавека, – усё гэта магчымае толькі тады, калі мы абаронім наш дзяржаўны сувэрэнітэт і загарантуем нацыянальную незалежнасьць. Незалежнасьць ёсьць свабода. Менавіта ў гэтым кантэксьце абарона неза-лежнасьці Беларусі і ёсьць цяпер найважнейшым пытаньнем беларускага грамадзтва. Цяпер-жа нам патрэбная канкрэтная й рашучая міжнародная падтрымка. Менавіта, мы чакаем заявы ад міжнароднай супольнасьці аб непрызнаньні незаконных недэмакратычных і нелегальных выбараў у бяспраўны парлямант, які рыхтуе акупацыйны рэжым Лукашэнкі.

Лукашэнка ёсьць узурпатар прэзыдэнцкай улады, ягоная ўлада незаконная й нелегальная. І мы патрабуем, каб Лукашэнка пакінуў уладу дабраахвотна ў абмен на гарантыі ўласнай бясьпекі. У Беларусі ёсьць законная Канстытуцыя, законны сьцяг і герб, законны парлямант, законны старшыня парляманту, выконваючы ў дадзены момант, згодна Консты-туцыі, функцыі прэзыдэнта, ёсьць законная ўлада, – і ёй павінныя быць вернутыя паўнамоцтвы. І толькі яна можа назначыць і правесьці дэмакратычныя выбары ў парлямант краіны.

Аналіз сытуацыі паказвае, што рэжым Лукашэнкі рыхтуецца да правя-дзеньня жорсткай рэпрэсыўнай палітыкі пасьля «выбараў» у Палату перад наступнымі прэзыдэнцкімі выбарамі. Мы спадзяемся ў сувязі з гэтым на палітычнаую падтрымку, якая нам вельмі патрэбная, спадзяемся, што яна знойдзе сваё адлюстраваньне ў рэзалюцыі гэтае кан-фэрэнцыі. Мы, беларусы, ніколі не прызнаем акупацыйных выбараў. Мы стаім на законных праўных пазыцыях і спадзяемся на падтрымку дэмакратычнай міжнароднай супольнасьці.

**Зянон Пазьняк**

# Беларускае грамадзтва дае падставы для аптымізму

Зараз для нас, з аднаго боку, абараніць незалежнасьць азначае вярнуць, адбудаваць парляментарызм, зь іншага боку, калі мы пасьлядоўна абараняем легітымнасьць Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, гэта азначае, што мы адстойваем нашую незалежнасьць. Мы тут ужо пачулі адказ на вядомае з рускай літаратуры пытаньне «Хто вінаваты?» – я хачу паспрабаваць адказаць на пытаньне «Што рабіць?».

Канечне, самая галоўная небясьпека сыходзіла й сыходзіць для нас ад поўнай злучкі беларускай дыктатуры й сучаснага, зрэшты, як і папярэдніх, маскоўскага рэжыму, паміж якімі йснуе практычна цалкавітае адзінства інтарэсаў, незважаючы на асобныя асабістыя моманты непаразуменьня паміж Лукашэнкам і Пуціным.

Такім чынам, перад прыхільнікамі беларускай незалежнасьці стаіць складаная задача. Мне здаецца, што мы распачалі выкананьне важнейшага складніка гэтай задачы ў справе перахопу палітычнай ініцыятывы ўжо летась. Пасьля 96 г. беларуская апазыцыя была ў стане разгубленасьці. Лістападаўскі пераварот прайшоў пры нахабным умяшаньні Масквы. Мы з вамі памятаем, як Селязьнёў, Строеў, Чарнамырдзін, прыляцеўшы ў Менск, яўна й нахабна ціснулі на легітымныя ворганы дзяржаўнай улады, на парлямант, на канстытуцыйны суд ды, паабяцаўшы нейкія гарантыі з боку Лукашэнкі, фактычна багаславілі дзяржаўны пераварот. Толькі зь мінулага году дэмакратычныя беларускія сілы, што стаяць на плятформе незалежнасьці, пачалі, нарэшце, кансалідавацца. І ніякая дэзынфармацыя, якая зараз распаўсюджваецца лукашэнкаўскай прапагандай (як, зрэшты, і маскоўскімі інфармацыйнымі сродкамі), ня маюць моцы абвергнуць таго, што ў Беларусі ўжо йснуе кааліцыя апазыцыйных сілаў – Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў, у якую ўваходзяць шэсьць буйнейшых партыяў (БНФ, Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, дзьве партыі блізкія да прафсаюзаў: Партыя жанчынаў і Партыя Труда). Апроч партыяў, у кааліцыю, што характэрна для сучаснага беларускага грамадзтва, уваходзіць асацыяцыя недзяржаўных арганізацыяў, якія стаяць на плятформе дзяржаўнай незалежнасьці, – г. зв. Асамблея, што аб'ядноўвае каля 700 недзяржаўных арганізацыяў! У кааліцыю ўваходзіць Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, шэраг грамадзкіх ініцыятываў. Усе пералічаныя вышэй суб'екты беларускай грамадзкай супольнасьці, падзяляючы названыя вышэй каштоўнасьці, апрача ўсяго іншага лічаць, што ў Беларусі няма й ня можа быць легітымнага парляманту апрача Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, няма да моманту сазыва наступнага легітымным чынам абранага парляманту.

Менавіта Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў на Кангрэсе дэмакратычных сілаў 2 ліпеня прыняла сёлета стратэгічна важнае рашэньне – ня ўдзельнічаць у выбарчым фарсе ў выпадку, калі ня будуць выкананыя чатыры ўмовы дэмакратычных выбараў, якія былі намі-ж распрацаваныя й цалкам падтрыманыя эўрапэйскімі й эўраантлантычнымі міжнароднымі структурамі. Гэта –дэмакратычны выбарчы закон; гэта – зьмяненьне палітычнага клімату ў краіне ад страху да даверу (маецца на ўвазе й вызваленьне палітвязьняў, і высьвятленьне лёсу зьніклых і г. д.); гэта – просты безцэнзурны рэгулярны доступ апазыцыйных партыяў да дзяржаўных СМІ, якія, як вы ведаеце, амаль цалкам у нас манапалізаваныя, паводле савецкага ўзору, дзяржавай; і гэта – паўнавартасны парлямант. Лукашэнкаўская-ж «Палата прадстаўнікоў» ня можа цалкам ні зацьвярджаць дзяржаўны бюджэт, ні прызначаць міністраў: у рэшце рэшт, кожны дэкрэт аднаго чалавека, які называе сябе «прэзыдэнтам», мае вышэйшую юрыдычную сілу.

Ніводная з гэтых умоваў на сёньня ня выкананая й ня мае сэнсу ўдзельнічаць у спэктаклі скіраваным на легітымізацыю існуючай, перадусім, лукашэнкаўскай улады. Калі-б дэмакратычныя сілы Беларусі згадзіліся ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, магчыма, нейкая частка нашых партыяў і патрапіла-б у парлямант (3-5 чалавек). Гэта дазволіла-б афіцыйнай (і ня толькі мінскай!) прапаганьдзе сцьвярджаць, што выбары адбыліся, прайшлі без грубых парушэньняў, а паколькі дэмакратычная кааліцыя прыняла ў выбарах удзел, значыць яна адмовілася ад сваіх «чатырох умоваў». Надалей – Палата прадстаўнікоў набыла-б міжнародную легітымнасьць, бо і ў між-народнай супольнасьці не было-б аргумантаў супраць ейнага прызнаньня, калі там удзельнічалі дэмакраты. Усё гэта справакавала-б тое, што падпісаныя з Расеяй і нямаючыя міжнароднай легітымнасьці дамовы, асабліва апошні ад 8 сьнежня 1999, былі-б міжнароднай супольнасьцю прызнаныя і ў хуткім часе ратыфікаваныя.

Менавіта з гэтай прычыны кампанія актыўнага байкоту выбарчага фарсу ёсьць магутная й пэрспэктыўная спроба ня даць ні Лукашэнку, ні Маскве пабудаваць у бліжэйшыя паўтары гады ў Беларусі палітыку паводле свайго сцэнару. Калі мы не пагаджаемся з антыдэмакратычнымі ўмовамі цяперашніх выбараў, мы захоўваем маральнае, палітычнае й прызнанае міжнароднай супольнасьцю права змагацца за гэткія самыя ўмовы падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2001 г. Калі мы цяпер, маючы рэальна аб'яднаную апазыцыю (я не ўважаю такой псэўдаапазыцыю: партыю накшталт камуністычнай, лібэральна-дэмакратычную (аналаг жырыноўцаў) або клюб пад назвай «Яблоко», прадстаўнікі якога, на жаль, доўгі час імкнуліся раскручваць, як кажуць паліттэхнолягі, некаторыя варыянты заходняй палітыкі на тэрыторыі Беларусі, – гэта ўсё псэўдаапазыцыя, менавіта таму яна цяпер і ўдзельнічае ў выбарчай кампаніі), – калі мы зрываем лукашэнкаўска-маскоўскі сцэнар «выбараў», мы атрымаем магчымасьць паказаць частцы ўладнай вэртыкалі, выканаўчай уладзе, мяйсцовым чыноўнікам, што рэжым ужо неўсеўладны, што ня ўсе напісаныя сцэнары выконваюцца, як па нотах. Калі ня будзе гэткага расчараваньня, мы, я мяркую, ня будзем здольныя паўтарыць той посьпех, які мы зараз назіраем у Белградзе й каторым мы шчыра цешымся.

Аднак калі параўноўваць нашую сытуацыю з сэрбскай (а мы, зразумела, пастаянна параўноўваем), дык ёсьць адна прынцыповая розьніца. З аднаго боку, дыктатура Мілошавіча й дыктатура Лукашэнкі тыпалягічна вельмі падобныя, нават у дробязях. Але ёсьць адно глыбіннае адрозьненьне: Сэрбія сама выконвала ролю імпэрскага жандара ў старой Югаславіі й стараецца выконваць яе й дасюль, сціснуўшыся, праўда, як шагрэневая скура. Беларускі-ж рэжым толькі складнік больш глябальнай імпэрскай прэтэнсіі, імпэрскай настальгіі, якая канцэнтруецца ў Маскве. Таму мы сьвядома зважаем на тое, што нават калі-б дайшло да збольшага дэмакратычных умоваў будучых прэзы-дэнцкіх выбараў, за якія давя-дзецца яшчэ шмат пазмагацца, – мы сутыкнемся з падсоўваньнем нам «траянскіх коней», а, менавіта, з псэўдадэмакратычнымі кандыдатамі ў прэзыдэнты, аплочанымі расейскімі грашыма й стымуляваныя расейскімі інтарэсамі нафтагазавых кампаніяў і ваенна-прамысловага комплексу. Менавіта таму, усьведамляючы рызыку, на якую мы ідзем, мы поўныя рашучасьці быць пасьлядоўнымі цяпер, у тым ліку ў справе байкоту.

Я хачу сказаць, што беларускае грамадзтва дае падставы для аптымізму. Апошнія сацыялягічныя апытаньні дастаткова аб'ектыўных службаў сьведчаць пра тое, што каля 55 адсоткаў гатовыя галасаваць на парляманцкіх і прэзыдэнцкіх выбарах за «нерэжымных» кандыдатаў. Аднак, на жаль, калі ў іх пытаюцца, колькі-ж, на іхнюю думку, прагаласуе за «нерэжымных» кандыдатаў, яны адказваюць, што толькі 40 адсоткаў. Людзі, будучы самі перакананымі, што ўжо насьпеў час нешта мяняць, ня вераць, што грамадзтва вакол іх у гэтым таксама перакананае. Вядомая «сацыялягічная пятля адставаньня надзеяў». Мы гэтай восеньню павінныя пасеіць такія надзеі на перамены, выкарыстаўшы й кампанію байкоту. Мы пастараемся дайсьці, як кажуць, да кожных дзьвярэй, прынамсі, у вялікіх прамысловых гарадох, дзе жывуць галоўныя нашыя прыхільнікі. Менавіта ў такіх гарадох, дзе вялікі працэнт людзей адукаваных, незалежных у сваіх поглядах, жывуць найчасьцей тыя, хто разумее, што без дзяржаўнай самастойнасьці й сам ня будзеш самастойны.

Згодна з тымі самымі сацыялягічнымі дасьледаваньнямі толькі 20-22 адсоткі апытаных маглі-б пагадзіцца з уваходжаньнем Беларусі ў склад Расеі. Я мяркую, што й гэтыя лічбы завышаныя, бо штодзённая порцыя навінаў з Расеі (а ў нас працуе 5-6 расейскіх каналаў бясплатна ў кожным доме) агітуюць лепш за ўсё супраць саюзу зь дзяржавай, у якой «што не згарыць, тое патоне», зь дзяржавай, якая «мае інтарэсы» ў Чачні, Таджыкістане, але ня можа падняць жыцьцёвы ўзровень сваіх уласных грамадзянаў. Калі й ёсьць сёньня прыхільнікі «ўзьяднаньня» з нашай усходняй суседкай, дык. канечне, гэта найменш адукаваная частка насельніцтва, старэйшая векам, эканамічна несамастойная, калгасьнікі.

Я аптымістычна гляджу на бліжэйшыя два гады й мяркую, што аб'яднанай апазыцыі ўдасца выйсьці на адзінага кандыдата ў прэзыдэнты, ужо цяпер адзіны кандыдат, хто-б ён ня быў, мае 14 адсоткаў падтрымкі, а калі мы да гэтага дадамо правільную стратэгію на гэтую восень, зіму, вясну, калі мы правільна выкарыстаем нарастаючы сацыяльны пратэст (у нас-жа цяпер і афіцыйныя прафсаюзы разглядаюцца ўладамі як ворагі), дык я думаю, што мы будзем мець посьпех. Перамагчы дыктатуру ў нашай сытуацыі – значыць адстаяць незалежнасьць!

**Вінцук Вячорка**

Цьві Колітц

# Зварот да Бога Ёзеля Раковера



*Праця. Пачатак у N34*

Так, тры бутэлькі бензіну ў мяне яшчэ засталіся, і дарагія яны мне, як самае дарагое віно. Адну зь іх я зараз апаражню: напішу вось гэтыя радкі, засуну паперу ў пустую бутэльку й схаваю паміж цэглы ў сьцяне каля вакна. Магчыма, нехта калі-небудзь знойдзе й прачытае, многае ён зразумее ў пачуцьцях жыда — аднаго зь мільёнаў! — што паміраў у адзіноце, зразумее сьмерць, у якую ён цьвёрда верыў. Дзьве іншыя бутэлькі я выплю на галовы бандытам, калі настане мой апошні час.

Дванаццаць чалавек было нас у гэтым пакоі, калі пачалося паўстаньне, і дзевяць дзён змагаліся мы супраць ворага. Усе мае адзінаццаць таварышаў загінулі. Яны памерлі ціха. Нават малы Буб, які толькі што зьведаў Сьмерць, калі яна прыходзіць — наколькі ён мог яе зьведаць у свае пяць гадоў — ляжыць цяпер мёртвы побач са мною. На ягоным прыгожым тварыку застыла ўсьмешка, выраз твару ў яго такі, які бывае ў дзіцяці, калі яно бачыць сьветлыя сны. Нават гэты маленькі хлопчык паміраў гэтак-жа спакойна, як ягоныя старэйшыя таварышы. Гэта адбылося сёньня раніцай. Душы маіх таварышаў ужо на Гары Сьмерці, душа малога Буба бліскае мне праз пройму вакна аднекуль здалёк. Яшчэ некалькі хвілінаў таму ён стаяў поруч са мною. Потым нечакана нахіліўся, упаў. Паміж дзьвюма танюткімі кудзеркамі валасоў у хлопчыка зьявілася кропля крыві, павольна пацякла на лоб. Галава Буба была прастрэленая.

Наш дом — гэта апошняя крэпасьць гета. Да ўчарашняга дня, калі вораг яшчэ толькі пачынаў паліваць наш дом пякельным агнём, усе яшчэ былі жывыя. Пяцёра з нас былі параненыя, але працягвалі змагацца. Учора й сёньня ўсе, апроч мяне, загінулі. Адзін за адным стаялі яны на варце й стралялі, пакуль былі ў стане страляць.

Ня маю я аніякіх боепрыпасаў, акрамя трох бутэлек зь бензінам. З дамоў насупраць па мне вядуць страшэнную страляніну. Мне больш нічога не дапаможа, таму што сходы, якія вядуць да мяне, скрозь зруйнаваныя гранатамі. Я адчуваю, што хутка будзе разбураны ўвесь дом. Я ляжу на падлозе й зараз пішу гэтыя радкі. Побач са мною мае забітыя сябры. Я ўзіраюся ў іхныя твары й бачу на іх спакой, лёгкасьць, іронію. Як быццам яны мне кажуць: «Май яшчэ трошкі цярпеньня, ты — дзіўны чалавек, толькі яшчэ пару хвілінаў і табе таксама зробіцца ўсё зразумелым». Гэткая іронія асабліва праступае на вуснах Малога, які расцягнуўся, нібы ў сьне, праваруч ад мяне. Ягоны маленькі рот сьмяецца, і гэты сьмех — з душы. І я, хто яшчэ жыве, і адчувае, і думае, разумею, што сутнасьць майго жыцьця ў бутэльцы зь бензінам і крыві, а Малы зь мяне сьмяецца. Ён глядзіць у самую маю сутнасьць. Ён сьмяецца зь мяне ціха й шматзначна, як сьмяюцца людзі, якія нешта ведаюць, калі яны размаўляюць зь людзьмі, якія нічога ня ведаюць, але думаюць, што яны ведаюць усё. Зараз ён ужо ведае ўсё, малы Буб, зараз яму ўжо ўсё зразумелае. Ён нават ведае, дзеля чаго нарадзіўся й чаму гэтак рана памёр, калі яму было толькі пяць гадоў. І калі ён раней гэтага ня ведаў, дык зараз ведае, што Веды й Няведаньне нічога цяпер для яго ня значаць у сьвятле прызнаньня Божай Сардэчнасьці ў тым лепшым сьвеце, дзе ён зараз знаходзіцца — магчыма, на руках ягоных забітых бацькоў, якіх ён там зноў знайшоў.

Праз гадзіну ці праз дзьве я таксама буду ведаць. І калі агонь зьесьць мой твар, на маіх вуснах таксама будзе блукаць усьмешка й нагадваць пра мой апошні ўздых. Але я яшчэ жыву. І перад сваёй сьмерцю я хачу яшчэ раз пагутарыць з маім Богам як Жывы: як адзіны жывы чалавек, каторы меў гонар, няшчасны гонар быць жыдам.

Я ганаруся, што я жыд, незважаючы на стаўленьне ўсяго сьвету да нас, асабліва, калі гэтае стаўленьне скіраванае супраць нас. Мне было-б сорамна мець сваякоў сярод народу, які нарадзіўся-б злачынцам і рабіў-бы выгляд, што не павінны адказваць за злачынствы, што былі зьдзейсьненыя супраць нас.

Так, я ганаруся сваім жыдоўствам. Каб быць жыдам, патрэбна быць творцам. Быць жыдам цяжка. Гэта ня творчасьць, не мастацтва — быць ангельцам, амэрыканцам ці французам. Магчыма, быць імі лягчэй і зручней, але ніякім чынам ня больш ганарова. Так, гэта гонар — быць жыдам.

Я думаю, што быць жыдам — гэта значыць быць змагаром, вечным плыўцом супраць бурлівага, злачыннага чалавечага патоку. Жыд ёсьць спрачальнік, кроўны сьведка, арыштант Бога. Ён ёсьць Ягоная сьвятая ўласнасьць. Вы, нашыя ворагі, кажаце, што мы былі дрэнныя. Але я мяркую, што мы былі лепшыя, чым вы: мы былі больш выкшталцоныя. Нават калі-б мы былі й горшыя, я з ахвотай паглядзеў-бы, як-бы вы выглядалі ў нашым стане.

Я маю шчасьце належыць да самага нешчасьлівага народу ў сьвеце — гэтага патрабуе найвышэйшы Закон Торы й найлепшая Мараль. Цяпер гэтая Тора станецца яшчэ больш сьвятой і ўвекавечанай, таму што Яна дае зараз Веды, і Яна — зганьбаваная ворагамі Бога.

Я думаю, што жыдоўства нараджанае быць закаранелым. Для жыда трэба нарадзіцца творцам. Ад жыдоўства нельга аслабаніцца. Гэта была Божая Воля, што Ён зрабіў нас абраным народам. Ніхто ня можа зразумець вышэйшага сэнсу нашых пакутаў. «Няма больш цэлай рэчы, чым разьбітае сэрца, — казаў мне неяк вялікі Рабі, — і няма таксама больш такога абранага народу, каторы быўбы такі адзінокі». Калі я думаю, што Бог зрабіў нас абраным народам, я ведаю, што мы пройдзем праз абраныя пакуты.

Я веру Богу Ізраіля, нават калі ён ня мог правільна зразумець Ягоныя Дзеяньні. Цяпер я стаўлюся да Яго ня толькі як Слуга Ягонага Сэрца, але й як Вучань Настаўніка. Я ўтаймоўваю гардыню перад Ягонай Веліччу, але ня буду цалаваць бізуны, якімі Ён мяне б'е. Я Яго люблю. Яшчэ я люблю Ягоную Тору. Калі-б я памяняўся зь ім мейсцамі, Ягоная Тора мяне зьберагла-б. Бог называецца Рэлігіяй. Ягоная Тора азначае Веды Жыцьця! І чым больш нас памрэ за Веды Жыцьця, тым больш несьмяротнай Яна зробіцца.

Таму дазволь мне, Божа, перад сьмерцю стаць цалкам свабодным, без нават самага нязначнага страху, у стане абсалютнага ўнутранага спакою й бясьпекі, пагутарыць з Табою апошні раз аб маім жыцьці.

Ты кажаш, што мы грашылі. Безумоўна! І праз гэта мы будзем пакараныя. Гэта я таксама магу зразумець. Але я хачу, каб Ты паведаў, ці ёсьць у сьвеце яшчэ якіянебудзь грэшнікі, каторыя заслугоўвалі-б такога пакараньня, якое атрымалі мы!

Ты кажаш, што ты яшчэ адпомсьціш нашым ворагам. Я ўпэўнены, што Ты ім адпомсьціш бязьлітасна. У гэтым я ня маю сумневу. Але я хачу, каб ты мне паведаміў, ці ёсьць наогул ва ўсім сьвеце такое пакараньне, якое ў стане адпомсьціць за тыя злачынствы, што былі зьдзейсьненыя супраць нас?

Магчыма, Ты скажаш, што цяпер стаіць адно толькі пытаньне аб граху й пакараньні, але Ты павінен адкрыць Свой Твар і не дазваляць людзям, каб яны жылі паводле сваіх інстынктаў. Я хачу ў Цябе запытацца, Госпад, і гэтае пытаньне палае ў ва мне, як нязгасны агонь: «Што яшчэ, скажы нам, павіннае здарыцца, каб Ты зноў зьвярнуў Свой Твар да сьвету?»

І я хачу ясна й адкрыта Табе сказаць, што мы зараз больш, чым раней, на нашым бясконцым шляху пакутаў, Адрынутыя, Апаганеныя, Здушаныя, Жывыя Трупы й Жывыя Пахodні, мы зараз, больш чым раней, хочам ведаць праўду: «Дзе ляжаць межы Твайго Цярпеньня?»

І яшчэ я хачу Табе сказаць: «Ты не павінны вельмі моцна нацягваць лейцы! Выпрабаваньне, у якое Ты нас завёў, такое цяжкае, што Ты павінны даравацъ Твайму народу й павінны адвесьці ад яго няшчасьце й Тваю злосьць».

Даруй тым, хто адвёў Вочы Твае ад нашага няшчасьця, але таксама даруй і Твайму абранаму народу, які перасяліўся ў сваім шчасьці да Цябе. Ты ператварыў нашае жыцьцё ў бясконцую страшную барацьбу, якую мы змушаныя весьці з тымі баязьліўцамі, каторыя хочаць, каб мы саступілі ім дарогу. У нашым зьнішчэньні яны ўбачылі сваё выйсьце. Не карай іх праз гэта! Баязьліўцаў не караюць, баязьліўцаў шкадуюць. Госпад, пашкадуй іх больш, чым нас!

Даруй таксама кожнаму, хто няславіў Тваё Імя: ішоў служыць іншым Багам ці быў староньнім да Цябе. Ты іх так моцна выпрабоўваў, што яны перасталі верыць, што Ты — іхны Бацька, што яны наогул маюць Бацьку.

Я кажу Табе гэта так выразна таму, што я Табе веру, я веру Табе цяпер больш, чым раней, бо я зараз ведаю, што Ты ёсьць мой Бог. Калі Ты яшчэ не прыйшоў да тых, чые ўчынкі ёсьць доказ іхнай страшэннай бязбожнасьці, дык Ты яшчэ можаш да іх прыйсьці.

Калі Ты ня мой Бог — чый тады Ты Бог? Бог забойцаў?

*Пераклад зь нямецкай* **Лілеі Сазанавец**

*Працяг у наступным нумары*

# Кастусю Акулу — 75!

Вядомы на эміграцыі беларускі пісьменьнік Кастусь Акула (сапраўдн. Аляксандар Качан) паходзіць зь вёскі Верацеі Докшыцкага раёну. Раней Верацеі, што месьцяцца непадалёк ад станцыі Круляўшчызна, належылі Дзісьненскаму павету. Бацькі, простыя сяляне, аддалі сына ў тутэйшую школу, пасьля Кастусь вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі й Глыбоцкай пэдвучэльні. Па заканчэньні пэдвучэльні нейкі час працаваў настаўнікам у Порплішчах. Напрыканцы вайны скончыў Школу каманьдзіраў Беларускай Краёвай Абароны ў Менску. Пасьля вядомага зьеэду быў змушаны зьехаць на Захад, дзе на поўніцу зьведаў лёс г. зв. «перамешчанай асобы». Мяняліся краіны, праца, часта сьмерць глядзела ў вочы. Былі Германія, Францыя, Італія, служба ў Брытанскай Арміі, бітва ў Афрыцы пры Касыно ў радох легендарнай арміі Андэрса, была Англія і, нарэшце, Канада, дзе Кастусь Акула жыве ўжо больш за паўстагодзьдзя...



Будынак чыгуначнай станцыі ў Круляўшчызьне, які напэўна памятае К. Акула

Незважаючы на жорсткі й небясьпечны час, думаў ня толькі пра асабістае ўратаваньне, але й пра лёс Беларусі й беларусаў, Грамадзкай працай пачаў займацца яшчэ ў Нямеччыне, працаваў у мюнхенскай «Бацькаўшчыне», у Мюнхене пачаў пісаць і друкавацца ў розных беларускіх эміграцкіх выданьнях. У Канадзе шмат часу аддаў утварэньню беларускіх суполак, заснаваньню царквы ў Тароньце, працы ў нядзельных школках, рэдагаваньню часопіса «Зважай», супрацоўніцтву зь беларусамі ЗША, рускамоўнымі эміграцкімі часопісамі. Першая вялікая кніга прозы «Змагарныя дарогі» выйшла ў 1962 г., наступныя 2 кнігі трылёгіі «Гараватка» – у 1965 і 1971 гг. У 1981 г. выйшла апошняя кніга трылёгіі – «Беларусы, вас чакае зямля».



І. Сурвіла й К. Акула перад будынкам Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта. 2000

Усе мастацкія творы К. Акулы маюць аўтабіяграфічны характар, і гэта ня дзіўна, бо аўтар быў ня толькі сузіральнікам, але і ўдзельнікам тых падзеяў, якія адлюстраваныя ў ягоных творах. Сялянскае жыцьцё малазямельнай вёскі цьвяроза ацэньвала ўсялякіх прыблудаў, якія сядалі на карак селяніна. Улады былі розныя афарбоўкай, але мелі наўмэце адно – вынішчыць беларусаў, панаваць на беларускіх абшарах. Героі твораў К. Акулы – сяляне, інтэлігенцыя, што выйшла зь вёскі, людзі зь вечнымі думкамі-клопатамі аб зямельцы, волі, Радзіме. Пісьменьнік раскрывае характары сваіх героеў не «маскоўскім жаргонам», а «мовай вялікага Купалы», роднай, беларускай, на якой і да сёньня гавораць у тых вёсках, дзе праходзіла юнацтва пісьменьніка.



К. Акула за рабочым сталом. 1966

Творамі К. Акулы зачытваліся беларусы-эмігранты, што шукалі ў іх сваё пакінутае, ужо далёкае, – і гэта ўзрушвала. Англамоўным чытачам пісьменьнік прапанаваў цудоўную кнігу на ангельскай мове «Заўтра – гэта ўчора» (1968 г.). Вядомы на эміграцыі літаратурны крытык У. Глыбін-ны гэтак пісаў пра К. Акулу й ягоны творчы мэтад: «У асобе Кастуся Акулы мы маем пісьменьніка з багатым творчым уяўленьнем. Багатае дазнаньне вясковага жыцьця ў Заходняй Беларусі, веданьне сялянскага побыту даюць пісьменьніку падставу да творчае працы ды робяць ягоныя кнігі пераканаўчымі ў сэньсе верагоднасьці й дакладнасьці мастацкае канвы». І далей: «Як пісьменьніку-раманістаму яму не даводзіцца нічога выдумляць. Само бачанае й перажытае адлюстравалася ў душы, навекі затрымалася ў набалелым сэрцы; гаротныя прыкметы часу, усё перажытае й пабачанае ў жахлівыя часы вайны і ў часе перад ёй моцна заляглі ў памяці й твораць багатую скарбонку, зь якой умелай рукою Кастусь Акула чэрпае той невычарпальны матар'ял, каб тварыць мастацкія пэрлы».

Усё жыцьцё Кастуся Акулы прысьвечанае беларускай справе, няма той беларускай дзялкі, на якой ён не прымаў-бы ўдзел. І асабліві ўздым у грамадзкай ды творчай дзейнасьці пісьменьніка назіраецца ў апошняе дзесяцігодзьдзе: дапамога дзецям Чарнобыля, маральная й матар'яльная падтрымка беларускага адра-джэньня, ён пільна сочыць за жыцьцядзейнасьцю замежных беларускіх суполак, у тым ліку і ў Літве, апякуецца беларускімі школкамі ў Вільні, Вісагінасе, якім перадаў шмат сваіх кнігаў і кнігаў іншых бе-ларускіх аўтараў, дапамагае матар'яльна зусім невядомым беларусам у іхным цяжкім жыцьці знаходзіць час для розных сустрэчаў, дыскусіяў, у ягоным доме знаходзяць прытулак новая беларуская эміграцыя. І праз усё жыцьцё нястомна піша. Часам выступае ў друку нават як вельмі здольны паэт.

*З Масквы, з Крамля празь сёлы й гумны*
*Чумою антычалавечай*
*Паўзе праклятая камуна,*
*Каб нам жыцьцё навек скалечыць.*

Гэткімі сапраўды ёмістымі й афарыстычнымі радкамі К. Акула адгукнуўся на падпісаньне Ельцыным і Лукашэнкам у Маскве ў красавіку 1996 г. дамовы аб аб'яднаньні Расеі й Беларусі.

Мне вельмі хацелася-б, каб Кастусь Акула падарыў нам свае ўспаміны, успаміны чалавека, якога лёс кідаў у самыя розныя краіны. Ён-жа трапляў у розныя, здавалася-б, бязвыйсныя сытуацыі, сутыкаўся з самымі рознымі людзьмі самых розных нацыянальнасьцяў, блізка ведаў шмат якіх нашых дзеячоў. Безумоўна, што ягоны асабісты погляд на адыходзячае стагодзьдзе, асабістая ацэнка былі-б вельмі цікавыя нам, ягоным суайчыньнікам, асабліва – маладому пакаленьню...

Тры гады таму газэта «РУНЬ» віншавала (памылкова) сп. Кастуся Акулу з 75-годзьдзем, бо 75 гадоў яму спаўняецца толькі сёлета, 16 лістапада. Але й тое нашае заўчаснае віншаваньне было добрым знакам таго, што наш юбіляр будзе доўга-доўга жыць і тварыць. «Народныя асілкі-волаты, трывалыя і ўстойлівыя ў штодзённай злыбядзе, сьціплыя й геройскія ў змаганьні, мудрыя й непрымірымыя да народных ворагаў, – ёсьць славай і натхненьнем наступных пакаленьняў», – пісаў Ул. Глыбінны. І такім народным асілкам-волатам уяўляецца мне Кастусь Акула.

**Павал Саўчанка**

# У самай гушчы беларускага жыцьця

## да 115-годзьдзя з дня нараджэньня Алеся Бурбіса

Алесь Бурбіс — аўтэнтычны карэнны віленчук, які трывала ўпісаўся ў культурна-грамадзкае жыцьцё беларусаў Вільні напрацягу двух першых дзесяцігодзьдзяў XX ст. Ён быў ня толькі актыўны грамадзка-палітычны дзеяч, але таксама таленавіты актор, рэжысёр і яго справядліва залічаюць да пачынальнікаў беларускага прафэсыйнага тэатру. З перспэктывы канца стагодзьдзя (артыкул напісаны ў 1994 г. — *заўв рэд.*) ягоная дзейнасьць гэта ўжо сапраўдная даўніна.

1885 — 1922

У Савецкай Беларусі пра Алеся Бурбіса згадвалася рэдка. Ён ня ўпісваўся ні ў савецкую рэчаіснасьць, ні ў ідэалёгізаваную савецкую гісторыяграфію. Ягоная біяграфія й дзейнасьць недастаткова дасьледавалася й мала распрацаваная. А між тым гэтая постаць вартая большай увагі дасьледчыкаў. Алесь Бурбіс пакінаў у нашай гісторыі сьлед на самых разнастайных дзялянках грамадзкага жыцьця, што, зрэшты, у тыя далёкія часы сярод пачынальнікаў нашага адраджэньня было нярэдкай зьявай.

Нарадзіўся Алесь Бурбіс у Вільні 8 кастрычніка 1885 г. Яму не было й дваццаці, калі ён актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. А было гэта напярэдадні рэвалюцыі 1905 г. Менавіта гэты трывожны час падштурхнуў няўрымсьлівага юнака да грамадзкай актыўнасьці. Некаторыя сьціплыя зьвесткі пра тагачасную дзейнасьць А. Бурбіса можна знайсьці ў розных савецкіх і нядаўна выдадзеных беларускіх выданьнях. Падкрэсьліваецца роля Бурбіса як грамадзкага й тэатральнага дзеяча, адзначаны ягоны ўдзел у заснаваньні Беларускай Сацыялістычнай Грамады (удакладнім — у стварэньні віленскага асяродка гэтай арганізацыі). Згадваецца й пра ягоную дзейнасьць у рэвалюцыйных падзеях, калі ён узначаліў рэвалюцыйны камітэт у мястэчку Майшагола каля Вільні, за што ў 1906 г. быў арыштаваны й сядзеў у вастрозе. Ёсьць і пра супрацоўніцтва ў «Нашай Ніве», арганізаваньне драматычных гурткоў і беларускіх вечарынак, удзел у рабоце Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага й Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні.

Каб лепш уявіць партрэт гэтага непаседлівага, энэргічнага й адданага грамадзкай справе чалавека, зазірнем у кніжку «За дваццаць пяць гадоў», выдадзеную ў Вільні ў 1928 г. і прысьвечаную гісторыі першых беларускіх палітычных падпольных партыяў. Вось урывак: «У Вільні да Грамады далучаецца Алаіза Пашкевічанка, мянушка Цётка (зпад Васілішак у Лідчыне), Фэлікс Стацкевіч, мянушка Аганёк (са Шчучына ў Лідчыне), Аляксандар Бурбіс зь Вільні, мянушка Піліп, студэнты Умястоўскія ды група вучняў Віленскай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі з Аўгенам Хлябцэвічам, мянушка «Халімон зпад пушчы», на чале... Побач зь Цёткай вялікую энэргію праяўляў нястомны Бурбіс. Часта галодны, у падзёртай вынашанай вопратцы, у дзіравых чаравіках, ён пасьпяваў усюды быць, з кожным бачыцца, да кожнай справы прылажыць сваю руку. Паміж іншым яму ўдалося гэтак заагітаваць усю Майшагольскую гміну, што тамака ўтварылася ў 1905 г. як быццам незалежная Майшагольская Рэспубліка. Прад-стаўнікі ўлады паўцякалі ў Вільню. У памяшканьні воласьці засядаў Рэвалюцыйны камітэт, якім кіраваў Бурбіс. У Вільні ўзьнялася паніка. Губэрнатар паслаў у Майшаголу за 22 вярсты ад Вільні казакоў «Рэспубліку» зьліквідавалі, а «прэзыдэнт» яе, як мы называлі, жартуючы, Бурбіса, быў пасьля асуджаны на тры гады крэпасьці. Гэтыя дзьве цэнтральныя постаці — Цётка і Бурбіс — гуртавалі вакол сябе лепшыя беларускія работніцкія сілы і моладзь».

Пасьля адбыцьця трохгадовага пакараньня, А. Бурбіс і далей актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадзкім і культурна-асьветніцкім руху ў Вільні, перадусім у працы музычна-драматычнага гуртка, каторы існаваў з 1910 па 1916 г. Тутака выступаў як актор, чытальнік беларускіх вершаў, рэжысёр. Паставіў спэктакль «Па рэвізіі» Крапіўніцкага, «Залёты» Вінцука Дуніна-Марцінкевіча. Упершыню ў Вільні паставіў «Паўлінку» Янкі Купалы. Гурток аб'ядноўваў беларускую інтэлігенцыю гораду. Сябрамі гуртка былі Ігнат Буйніцкі, Зьмітрок Бядуля, Леапольд Родзевіч, Паўліна Мядзёлка. З архіўных матар'ялаў, што захоўваюцца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы, даведваемся, што старшынём праўленьня гуртка быў Барыс Даніловіч, ягоным намесьнікам — Вацлаў Ластоўскі, у склад праўленьня ўваходзілі Бонч Асмалоўскі, Аляксандар Уласаў, той самы Буйніцкі й Бурбіс. Актыўнымі сябрамі гуртка былі Іван ды Антон Луцкевічы й нават Ёнас Басанавічус, каторы узначальваў музычную камісію гуртка. Стуль-жа зьвестка, што ўстаноўчы сход гуртка адбыўся ў памяшканьні літоўскага Таварыства «Рута». Як бачым, Алесь Бурбіс знаходзіўся ў самай гушчы беларускага культурніцкага жыцьця Вільні, якое тады разьвівалася ў садружнасьці й зь літоўскім рухам.

Першая сусьветная вайна й рэвалюцыя ў Расеі закінула Бурбіса на Ўсход. Жыў і працаваў у Маскве й Смаленску, працаваў у беларускіх бежанскіх арганізацыях. Затым займаў адказныя становішчы ў рэспубліцы Літбел і БССР. Быў адным з арганізатараў таварыства Чырвонага Крыжа ў Савецкай Беларусі. Быў таксама аўтарам дасьледаваньняў у галіне эканамічнай геаграфіі, гісторыі й этнаграфіі Беларусі.

Памёр Алесь Бурбіс 20 сакавіка 1922 году. Можа дзеля гэтага ён пазьбегнуў той вострай крытыкі й незаслужаных абвінавачаньняў з боку рэжыму, якія выпалі на долю ягоных паплечнікаў з Грамады й «Нашай Нівы» ў гады бальшавіцкага тэрору.

**Лявон Луцкевіч**

## Беларусь, Крывія, Вялікалітва, Гудзія...

Ужо тры гады мяне турбуе пытаньне, якая сапраўдная назва маёй радзімы? Пытаньне гэтае мае свае складанасьці, але нядаўна я ўсё-ж дапяў: а ці трэба ў нашым жыцьці ўсё ўскладняць? І без таго хапае розных клопатаў. Аднак па-парадку.

Мая радзіма Беларусь! Гучыць прыгожа. Але я ад гэтай назвы адчуваю сябе няўтульна. Нехта скажа: мо табе не падабаецца азначэньне «русь», як частка нзовы роднага краю? Іншы скажа: разумею, гэтай назвы мы ня мелі ў старажытнасьці і ў сярэднявечны назвы нашай бацькаўшчыны былі няпэўныя. Трэці... Не, браткі мае. Не з палітычнай каньюктуры пішу я гэтыя нататкі ды выказваю свае пачуцьці. «Саюз Беларусі з Расеяй» тут ні пры чым. Проста надакучыла няпэўнасьць. Жывем паводле сінусоіды, гойдаемся на арэлях: туды-сюды, туды-сюды. Азначэньні гэтыя ўсім вядомыя... І раптам, як азарэньне: а можа вось гэтае нешта спатрэбіцца каму-небудзь?

Беларусь, Белая Русь... Прабачце, а куды-ж падзелася Чорная Русь? Даўней-жа на абшарах нашай краіны сутыкаліся назвы і Белай, і Чорнай Русі (як на тэрыторыі сучаснай Украіны была яшчэ й Чырвоная Русь). Чаму-ж усіх сваіх землякоў я называю «беларусамі», калі сярод іх сустракаю й «чарнарусаў»? Пачуваю сябе ніякавата. Далей. Лёгка высьвятляецца, што каляровыя гэтыя назвы – азначэньні «блукаючыя». Так, Белай Русьсю ў свойчас называлася й Маскоўскае княства. Пад Чорную Русь падпадала й сучасная Гомельшчына. Тут можна было-б даць больш падрабязнае тлумачэньне, аднак сутнасьць нашага пытаньня не мяняецца. За намі замацавалася выпадковая, «блукаючая» назва? Зноў-жа суцэльная няўтуліца. Да таго-ж у замежжы ёсьць людзі (паводле сьведжаньня, здаецца, Вітаўта Кіпеля), для якіх нашая назва ў русскай транскрыпцыі «Белоруссия» асацыюецца з «Белой Россией» – з азначэньнем белагвардзейцаў у грамадзянскую вайну!

Русь. Сапраўды так. Іншай назвы ад Расеі мы браць ня хочам, а сваёй уласнай, прабачце, няма. Праўда, у першай палове XX ст. Вацлаў Ластоўскі прапанаваў называць нашую радзіму Крывіяй. Янка Станкевіч распаўсюджваў тэрмін Вялікалітва. Цяпер Яўген Шыраеў унёс прапанову называць нашую краіну Ліцьвіна-Беларускай Рэспублікай. Іншых прапановаў я асабіста не сустракаў, хаця тэма ня новая. Але... няўтульна! Жыхары паўночнай часткі нашага краю, мяркую, могуць пагадзіцца з В. Ластоўскім. Затое нашчадкі радзімічаў і дрыгавічоў наўрад ці, хоць крывічы былі самым вялікім і магутным племенем на тэрыторыі нашай гістарычнай радзімы... Вялікалітва. Як адрэагуюць на гэтую назву сучасныя літоўцы? Мяркую, без энтузіязму. Навошта множыць узаемныя крыўды, навошта, наогул, уздымаць гэтае пытаньне? Ну а Ліцьвіна-Беларуская Рэспубліка – проста не гучыць, складаная для разуменьня й дае непатрэбныя асацыяцыі: Кабардына-Балкарыя, напрыклад. Так, мабыць цяперашняя назва нашай радзімы застаецца найлепшай, бо ніхто ўжо сёньня не ўспамінае пра Чорную Русь, а Белая асацыюецца зь нечым сьветлым, прыемным, руплівым.

Аднак я задаюся пытаньнем: а што калі гэтае быццам-бы складанае пытаньне вырашыць зусім нечаканым шляхам? Да чаго я хілю? Зараз пабачаце. Балцкія плямёны Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага й Рускага (продкі сучасных літоўцаў) доўгі час карысталіся старабеларускай мовай. Параўнайце, да прыкладу, літоўскую энцыкляпэдыю 1930 г. з энцыкляпэдыяй 1970 г. Вазьміце літоўска-расейскі слоўнік Б. Сярэйскага (Коўна, 1933) і пад рэдакцыяй А. Ліберыса (Вільня, 1980). Другі прыклад больш паказальны. У першым слоўніку на развароце ст. 204-205 мы налічым 15 словаў ад кораня gudas (беларус) і ў другім слоўніку на 208-209 ст. чытаем: «gudas, gude – zr. (гл.) baltarusis». Знайшоўшы слова baltarusis, даведваемся, што яно азначае «беларус». Якая з гэтага выснова? А такая, што ў літоўскіх перадваенных выданьнях (у г. зв. «Ковенскай рэспубліцы») азначэньне «гудас» было шырока распаўсюджанае, а «балтарусіс» – амаль не ўжывалася. За савецкім часам першае было практычна выкрасьленае, ды так, што амаль не засталося ў людзкой памяці. Мая зямлячка Ганна Жэльвене (пражыўшы амаль 10 гадоў у Літве й маючы мужа – карэннага літоўца з-пад Коўны), перакладаючы з літоўскага gudas kalba (беларуская мова), не зразумела слова gudas. (У першыя гады незалежнасьці літоўцы пачалі былі зноў ужываць словы «гудас» («беларус»), «Гудзія» («Беларусь»), аднак цяпер зноў вяртаюцца да «балтарусіс» і «Балтарусія» – заўв. рэд.)

Я не хілю да таго, што можа ёсьць сэнс замест назвы Беларусь ужываць слова Гудзія, каторае нам далі продкі сучасных літоўцаў. Але-ж яна куды лепшая, чым латвійская назва Балтакрэвія, – вельмі натуральная сваім паходжаньнем і, здаецца, зусім нэўтральная (хоць тут я можа й памыляюся). А закончыць свае развагі хачу выказваньне С. Дубаўца, рэдактара «Нашай Нівы»: «Наша маці-радзіма сёньня носіць ня тое імя? Але на іншае яна не адгукнецца».

**Пятро Амбрасовіч**
*Санкт-Пецярбург*

## Беларуская й Літоўская школы ў Гародні

Падчас нямецкай акупацыі ў Гародні польскія школы былі забароненыя. Дзеці польскай нацыянальнасьці вучыліся тайком у прыватных настаўнікаў, а кніжкі й сшыткі насілі запазухай, каб які-небудзь немец не западозрыў. А вось дзейнасьць гарадзенскіх беларусаў і літоўцаў была дазволеная. У Гародні дзейнічалі Нацыянальныя беларускі й літоўскі камітэты, працавалі школы на беларускай і літоўскай мовах. Па-сутнасьці гэта была адна тая самая школа, месьцілася яна на цяперашняй вуліцы Ўрыцкага (насупраць турмы). З ранку ў школе вучыліся беларускія дзеці, а па абедзе – літоўскія. Я таксама там вучылася й маю вялікую просьбу да чытачоў «Руні», каб адгукнуліся тыя з вас, хто наведваў нашую школы й мог-бы падрабязьней распавесьці пра ейных вучняў і настаўнікаў!

**Станіслава Гайдзітэ**
*Вільня*

*PS. Сябры рэдакцыі «Руні» віншуюць шаноўную спадарыню Станіславу Гайдзітэ з 70-годзьдзем, зычаць ёй даўгалецьця й плёну ў грамадзкай дзейнасьці!*

## Добра

што рэдакцыя «Руні» ўвяла рубрыку «Навіны зь Беларусі». Гэта кароткія, але цікавыя інфармацыі з падзеяў у Беларусі, асабліва для нас у замежжы. А для нашых суайчыньнікаў зь Беларусі будзе, напэўна, цікава даведацца, што 15 кастрычніка беларусы зь Лёндану пратэставалі перад Беларускім пасольствам супраць недэмакратычных выбараў у г. зв. «Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу». Было многа бел-чырвона-белых сьцягоў, розных плякатаў, якія інфармавалі праходзячых каля пасольства людзей. Таксама раздаваліся ўлёткі.

**Юры Весялкоўскі**
*Лёндан*

*PS. Просім у сп. Ю. Весялкоўскага прабачэньня за дапушчаныя рэдакцыяй абмылкі ў ягоным артыкуле «Правы чалавека» («Рунь» N33): «Магна карта» згадваецца ў гісторыі не ў 1525 г., а ў 1215 г., а Кофі Анан не «былы», а дзейны сакратар ААН.*

## Захад далёка не заўжды разумее нас

Я сказаў-бы, што йснуе толькі 5 краінаў, якія добра разумеюць, што ў нас адбываецца. Гэта ЗША (яны трымаюцца цьвёрдых і жалезных прынцыпаў, у іх усё фармалізавана й паіншаму быць ня можа), гэта Польшча, і гэта тры прыбалтыйскія рэспублікі. Усё. Далей пачынаюцца пытаньні. Нават з Чэхіяй. Венгры не выказваюць ніякай цікавасьці. Фактычна чэхі леташняй зімою выратавалі наш рэжым ад банкроцтва, даўшы яму крэдыт на закупку збожжа ў Чэхію (каб уратаваць сваю ўласную сельскую гаспадарку). Чэхам і ў галаву не прыйшло, што карыстаючыся карумпаванай структурай улады, якая склалася ў Беларусі, можна было выкарыстаць тыя грошы на ўзбраеньне тых, хто разганяе дэманстрацыі, а зерне прадаць у Расею яшчэ даражэй і на гэтым зарабіць. Гэта ўсё цяпер робіцца ў Беларусі без асаблівых складанасьцяў. Так вось краіна, прэзыдэнт якой нібыта сымпатызуе нашаму руху, падтрымлівае дыктатарскі рэжым. Ёсьць вялікія праблемы з Францыяй і Германіяй, паколькі яны дагэтуль песьцяць надзею, што наш рэжым можна перавыхаваць, не разумеюць, чаму мы байкатуем выбары.

**Станіслаў Шушкевіч**
*(З выступленьня на віленскай канфэрэнцыі «Праблемы беларускага парлямантарызму»)*

## Сярод белага дня

ў Докшыцах сёлета летам, у доме былога «вэртыкальшчыка» Падрэза (цяпер ён узначальвае кантору горгаза), адбылося забойства, ды такое, што сам А. Лукашэнка ўзяў ягонае расьледаваньне пад асабісты кантроль. У адсутнасьць гаспадара (ён у гэты час знаходзіўся ў санаторыі) невядомыя па-зьверску забілі ягоную жонку Сьвятлану Падрэз. Забітую знайшла суседка, бо дзьверы ў дом былі адчыненыя. Яна была агаломшаная, убачыўшы акрываўленую Сьвятлану Аляксандраўну: ногі жанчыны былі склееныя скотчам і перавязаныя тэлефонным дротам, шпалеры скрозь былі ў плямах крыві. Відавочна, што яе доўга дапытвалі й білі. На мейсца забойства прыяжджала ці ня ўся абласное начальства, у тым ліку пракурор Віцебскай вобл. Агляд мейсца здарэньня заняў у крыміналістаў 12 гадзінаў.



Натурморт з кіяхамі. Здымак Дзяніса Раманюка

Дык хто-ж забіў Сьвятлану Падрэз? Адказ адзін – бандыты! І яны павінны быць знойдзеныя й пакараныя. Але-ж гэтую мафію ў раёне ўскарміў і выгадаваў сам Падрэз, нядаўні старшыня райвыканкама. Гэта зь ягонай ініцыятывы ў маім родным Вашунаве, напрыклад, было створанае «асінае гняздо», г. зв, «Пчалярня». Сюды на свае шабасы за калгасны рахунак зьяжджалася ўсё раённае начальства. Гэта тут, у часе чарговай папойкі, загінуў дырэктар Заборцаўскай школы, якога «сьпісалі» пасьля як «ахвяру Чарнобыля». Пад кіраўніцтвам Падрэза раённая мафія напрацягу апошніх 10 гадоў асабліва актыўна «заганяла» ў Польшчу ўгнаеньні й нават... ланцугі для быдла, будавала сабе асабнякі, набывала зброю. Так у доме самога Падрэза знаходзіліся дзьве паляўнічыя стрэльбы, карабін і пісталет, –іх забралі з сэйфу забойцы Сьвятланы.

Вось так несамавітая «дзейнасьць» кіраўніка докшыцкага райвыканкама бумерангам ударыла па ім самім.

**Юры Гіль**
*Вільня*

## Шаноўныя чытачы!

*Шмат у каго з вас ужо скончылася падпіска на нашую газэту, некаторыя й зусім не падпісаліся. Нашым чытачам зь Беларусі й краінаў СНД, каторыя з прычыны цяжкога матар'яльнага існаваньня ня маюць сродкаў на падпіску, мы й надалей будзем высылаць газэту бясплатна. (Адна толькі просьба, каб вы часьцей пісалі нам, ці хаця-б паведамілі, ці даходзіць да вас газэта). А вось да астатніх нашых падпішчыкаў вялікая просьба: падпішыцеся! Падтрымайце адзіную беларускую газэту ў нашай старажытнай сталіцы Вільні! Умовы падпіскі ранейшыя:*

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (Pavel Savcenko). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to Vilniaus Bankas AB, Vilnius, SWIFT: CBVI LT 2X, at Bankers Trust Company, New York, SWIFT: BKTR US 33, for further credit to VVIC «Demokratija Baltarusijai», account no. 9175/512*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНГ** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$3**, у краінах СНГ – сума ў нацыянальнай валюце эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
**«Рунь»**
**2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania**
e-mail: **nicka@takas.lt**

### Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| **Л. Монід** з Канады | $ 50 |
| **А. Выман з** Амэрыкі | $ 20 |
| **М. Белямук** з Амэрыкі | $ 20 |
| **А. Лук'янчык** з Амэрыкі | $ 50 |
| **М. Дзямковіч** з Амэрыкі | $ 50 |
| **М. Сьнежка** з Амэрыкі | $ 20 |
| **В. Кажан** з Амэрыкі | $ 15 |
| **К. Варабей** з Амэрыкі | $ 20 |
| **А. Ражанец** з Англіі | GBP 30 |



РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўца
Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў
*«Дэмакратыя дзеля Беларусі»*
адрас рэдакцыі
*A. Jakšto, 9-106, 2600 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: (+ 370 2) 62 55 71
факс: (+ 370 2) 42 38 02
e-mail: nicka@takas.lt
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
друк UAB Adomo Jakšto spaustuve
наклад 1000
ISNN 1392-7671